*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

**Штотыднёвая газета**
**(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)**

**№ 43 (203)**

**26 кастрычніка 1994 г.**

**Кошт — 40 рублёў**

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВЫСТУПІЎ ГОСЦЬ З МАСКВЫ** — старшыня камітэта па бюджэту і фінансах верхняй палаты расійскага парламента Мікалай Ганчар, які ў сваім выступленні адзначыў: «Мы лічым, што сёння размовы аб рознага роду дзяржаўных інтэграцыях, стварэнні канфедэрацыі ці нечага іншага — з'яўляюцца перашкодай, замінаюць рэальнай эканамічнай інтэграцыі. Мы лічым, што гэтыя прапановы павінны быць рэалістычнымі. А значыць, паслядоўнасць інтэграцыі павінна быць такой жа, якой яна была ў Еўропе. Гэта стварэнне спачатку зоны свабоднага гандлю, потым — плацёжнага саюза. А потым — з улікам канкрэтнай практыкі рэалізацыі гэтых дакументаў — тое, што будзе вынікам гэтага натуральнага шляху». У нечым гэтыя падыходы пераклікаюцца з апошнімі выказваннямі па праблеме міждзяржаўнай інтэграцыі Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

○ ***З 15 ПА 30 КАСТРЫЧНІКА ВА ЎСІМ СВЕЦЕ ПРАХОДЗЯЦЬ ДНІ ФРАНЦУЗСКАЙ КНІГІ.*** *У Менску гэтая акцыя праводзіцца пад эгідай Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі і прадстаўлена выстаўкай «Французская кніга».*

○ **КРЫХУ БОЛЬШ ЗА ТЫДЗЕНЬ НАЗАД ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МІХАІЛ ЧЫГІР ВЯРНУЎСЯ З ЗША,** дзе ён выступіў на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Кіраўнік урада нашай краіны ажыццявіў некалькі важных сустрэч з дзелавымі коламі Амерыкі. Станіслаў Багданкевіч, які суправаджаў прэм'ера ў якасці яго дарадцы, пры гутарцы з карэспандэнтамі паведаміў, што асноўнай мэтай сустрэч з дзелавымі людзьмі ЗША стала абмеркаванне праграмы «Тэхнапарка», якая дасць нам інвестыцыі ў паўтара мільярда долараў і створыць дадаткова 20 тысяч рабочых месцаў. Да ўсяго, спадар Багданкевіч адзначыў, што толькі Захад здольны даць і дасць нам сёння інвестыцыі, а не Усход. Вядома, калі наш урад не будзе рабіць непрадуманых заяў.

○ ***ПАВОДЛЕ ЗВЕСТАК, ЯКІЯ З'ЯВІЛІСЯ Ў ДРУКУ, У КАНЦЫ ЛІСТАПАДА ПЛАНУЕЦЦА*** *падпісанне пагаднення з Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця аб выдзяленні Беларусі 30 мільёнаў долараў.*

○ **У ІНТЭРВ'Ю З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ» ЛІДЭР БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ, НАРОДНЫ ДЭПУТАТ БЕЛАРУСІ ЗЯНОН ПАЗЬНЯК** на пытанне карэспандэнта, як ён глядзіць на рашэнне Вярхоўнага Савета аб змяненні Закона аб мясцовым самакіраванні, адказаў: «Такой сістэмы, якая зараз прынята праз унясенне змяненняў у закон, няма ні ў адной дэмакратычнай краіне свету. Гэтыя змяненні парушаюць Еўрапейскую хартыю аб самакіраванні, што супярэчыць элементарным прынцыпам дэмакратыі і сведчыць аб тым, што краіна, у якой мы жывём, не з'яўляецца дэмакратычнай».

○ ***ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ «НАШАГА СЛОВА»!*** *З 12 кастрычніка па 25 лістапада ў нашай краіне праводзіцца падпіска на першае паўгоддзе 1995 года на перыядычныя выданні. Спадзяёмся, што застанецеся вернымі нам і неадкладна наведаеце паштовае аддзяленне і падпішацеся на «Наша слова». Кошт падпіскі на месяц: 175 рублёў, на тры месяцы — 525 рублёў, на паўгода — 1050 рублёў. Індэкс 63865.*

***Не зважаючы на скуголенне магільшчыкаў беларушчыны, шэрагі палкіх патрыётаў растуць.***
*Стар. 2—3.*

*АЛЕ!*

## ЖЫВЁМ, ПРАЯДАЮЧЫ БУДУЧЫНЮ ЎЛАСНЫХ ДЗЯЦЕЙ

У дакладзе Вярхоўнаму Савету прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.М.Чыгір паведаміў, што к канцу бягучага года знешні доўг нашай краіны наблізіцца да двух мільярдаў долараў. А здаецца, нічога асабліва шыкоўнага просты працоўны чалавек не мае — месячнай зарплаты больш як на харчаванне, звычайна, не хапае. І то начальства, аказваецца, занепакоена, што ў людзей на руках нешта ўсё ж застаецца. Як быццам, пару прыстойных чаравікаў, не кажучы пра тэлевізар ці халадзільнік, можна набыць за месячны заробак таго ж настаўніка ці іншага бюджэтніка, а не шляхам ашчады-эканоміі з месяца ў месяц, хоць зберажэнні ўрэшце і з'ядае інфляцыя. Ды што ж, калі беларускі характар такі — не дазваляе сабе нармальны беларус прафукацьпрагуляць адным чохам усё дазвання, каб потым пазіраць у рукі суседу. Так да канца аматары «светлай будучыні» і не адвучылі яго ад прадзедаўскіх звычак. Хіба толькі тых, хто ўласных продкаў адцураўся ці не ведае. А тым часам даўгі дзяржавы растуць і растуць. Дык ці не варта ўрэшце зацікавіцца, па якой такой прычыне Усходняя Германія пачынае жыць лепей за праслаўленую сваім дабрабытам Заходнюю, чым па-ранейшаму з тужліва-жаласлівай жабрацкаю мінаю ўглядацца толькі ў расійскі бок?

**Ул.Ас.**

*РЭХА*

## БЫВАЙ, «СЕЛЬСАВЕТ»!

Ах, як уелася гэтае слова ў мазгі сельскаму люду! Здавалася б, і малая ўлада была ў ягонага старшыні, а ніяк не абыдзеш гэную фігуру. Як і яшчэ адну — «прысядацеля» калгаснага. Хоць імі самімі бы марыянеткамі жорстка кіравалі «лялькаводы» з кампартыйнага райкама. І вось Вярхоўны Савет па прапанове Прэзідэнта скасоўвае сельсавет як найменшую тэрытарыяльную адзінку савецкай улады разам з пасялковымі, гарадскімі (у гарадах раённага падпарадкавання) і раённымі (у гарадах, дзе існуе дзяленне на раёны) Саветамі. Бывай, «сельсавет»! Прывыкай, селянін, да новага слоўца — адміністрацыя. Ну, а яшчэ адзін тэрмін — «выканаўчая вертыкаль» — гэта ўжо для начальства.

**Ул. Ас.**

***Англійская мова — праз беларускую. І атрымліваецца някепска.***
*Стар. 3.*

***У ГАЗЕТАХ***

## ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ МАТЧЫНАЙ МОВЫ — АДЗІНЫ ШЛЯХ ДА БЕЛАРУСІ

Тэме рэалізацыі Закона аб мовах прысвечаны вялікі аналітычны матэрыял вядучага спецыяліста ўпраўлення па правах сацыяльна-культурнага комплексу Савета Міністраў Віталя Маслоўскага, апублікаваны «Настаўніцкай газетай» (№ 76).

Аўтар падкрэслівае, што згаданы Закон у Рэспубліцы Беларусь дзейнічае ўжо чатыры гады, што за гэты час зламана шмат коп'яў у гаворках і спрэчках аб тым, наколькі дзейсны сам Закон, наколькі ён паслядоўна выконваецца. З грунтоўным веданнем справы В.Маслоўскі вымушаны канстатаваць: у цэлым выкананне Закона аб мовах ідзе далёка не так, як хацелася б. Далей падкрэслена, што рэалізацыя распрацаванай Дзяржаўнай праграмы ажыццяўлення дзеючага моўнага заканадаўства зараз паралельна вядзецца ў некалькіх магістральных напрамках: забеспячэнне функцыянавання беларускай мовы ў дзяржаўных і грамадскіх органах, на прадпрыемствах і ва ўстановах, выкарыстанне беларускай і іншых моў у сферах адукацыі, культуры і выдавецкай дзейнасці, у навуковым, матэрыяльна-тэхнічным і фінансавым забеспячэнні ўвасаблення Закона аб мовах.

У артыкуле сканцэнтравана ўвага таксама на тым, што само стаўленне да моўнага заканадаўства ў Рэспубліцы Беларусь, на жаль, працягвае заставацца даволі неадназначным і неадэкватным. Разам са спакойнымі, разважлівымі і ўзважанымі адносінамі да праблемы з боку многіх нашых міністэрстваў і ведамстваў яшчэ нярэдкія выпадкі прамога ігнаравання палажэнняў названага Закона. Радуе, ніжэй заўважае аўтар, што бачныя дасягненні тут у першую чаргу ўжо маюць нашы Міністэрствы адукацыі, культуры і друку разам з пераважнай большасцю іх устаноў і арганізацый на месцах. Добра разумеюць сваю адказнасць перад нашчадкамі за выкананне Закона аб мовах і ў такіх індустрыяльна-сілавых уладных структурах, як Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства транспарту і камунікацый, Мінгандаль. Адметна, што ў падведамасных ім арганізацыях і ўстановах да выканання палажэнняў згаданага Закона падышлі творча і асэнсавана. Ёсць матэрыяльна падмацаваныя планы мерапрыемстваў па рэалізацыі моўнага заканадаўства і ў Камітэце па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Саўміне, Белстандарце, у Міністэрстве сувязі і інфарматыкі, у Камітэце па архівах і справаводству. А ў Міністэрстве ўнутраных спраў і яго тэрытарыяльных структурах матчына мова паступова паўсюдна становіцца мовай рабочай.

Асобна гаворыць аўтар аб ходзе выканання Закона ў розных рэгіёнах Беларусі. Ён, у прыватнасці, адзначае станоўчы прыклад Віцебскай вобласці, дзе гэта праблема рэгулярна (штоквартальна) абмяркоўваецца ў намесніка старшыні аблвыканкама. Не адстае ад Віцебшчыны і сталічная Менская вобласць, у шэрагу раёнаў якой ідзе паспяховы пераход на дзяржаўную мову нашай краіны. Моўная палітыка знаходзіцца таксама пад пастаянным кантролем з боку кіраўніцтва сталічнага гарвыканкама. А вось стан спраў з выкананнем моўнага заканадаўства на Брэстчыне, Гродзеншчыне і Магілёўшчыне далёка не лепшы, ён выклікае не толькі заклапочанасць, а часам нават — трывогу.

В.Маслоўскі спыняецца таксама і на вельмі набалелым — пытаннях фінансавай і матэрыяльнай дзяржаўнай падтрымкі забеспячэння рэалізацыі Закона аб мовах. Падкрэслена, што на гэтыя мэты ўрад сёлета вызначыў 600 мільёнаў рублёў (летась было 173,38 млн.), якія пакрываюць выдаткі на выданне беларускамоўнай літаратуры, датацыі рэдакцыям беларускамоўных газет і часопісаў, фінансаванне за кошт бюджэту работ па стварэнню новых падручнікаў для нацыянальнай сярэдняй і вышэйшай школы, многія іншыя мерапрыемствы і захады.

Але аўтар артыкула ўсё ж вызначае, што разуменню дзяржаўнасці беларускай мовы ў якасці неад'емнага атрыбута суверэннасці і незалежнасці Рэспублікі Беларусь яшчэ пакуль не стала грамадскай з'явай, асэнсаванай і ўсвядомленай кіраўнікамі розных узроўняў. Не спрыяе дзейснаму выкананню моўнага заканадаўства і тое, што выканкамы мясцовых саветаў народных дэпутатаў недастаткова вядуць адпаведную работу з кіраўніцтвам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, ды і самі часам не паказваюць прыкладу паўсядзённага карыстання нашай дзяржаўнай мовай. У выніку не дзіўна, піша В.Маслоўскі, што ў грамадстве ў пэўнай ступені дагэтульназіраецца часта намінальнае ўспрыманне Закона аб мовах.

На заканчэнне выказана цвёрдая ўпэўненасць: не зважаючы на цяжкасці і перашкоды, роднае слова ў статусе адной дзяржаўнай мовы ўжо паспяхова крочыць па беларускай зямлі і толькі яно здольна дапамагчы выхаванню ў нашых грамадзян высокага пачуцця самасвядомасці, што ў выніку дапаможа ўсім нам дайсці да Беларусі.

**М. В.**

ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА

# У ГОМЕЛІ СТВОРАНА АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ТБМ

12 кастрычніка ў Гомелі адбылася ўстаноўчая канферэнцыя па стварэнні абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел кіруючыя работнікі аблвыканкама і гарсавета, абласнога і гарадскога ўпраўленняў адукацыі і культуры, Гомельскага аддзялення Саюза пісьменнікаў, актывісты гарадскіх і раённых арганізацый Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, іншых гарадскіх арганізацый, работнікі сродкаў масавай інфармацыі. Усяго ў рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел каля 150 зацікаўленых асоб ад Рэспубліканскай Рады ТБМ, у рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел намеснік старшыні ТБМ Я.Цумараў і адказны сакратар В.Вільтоўскі. На канферэнцыі абрана абласная Рада ТБМ. Старшынёй Рады абраны пісьменнік Бароўскі Анатоль Мікалаевіч.

Канферэнцыя прыняла пастанову і зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Падрабязная справаздача аб рабоце канферэнцыі будзе надрукаваная ў бліжэйшым нумары.

**Наш уласны карэспандэнт.**

ВЕСТКІ З МАЛАДЗЕЧНА

# КАБ ВЫКОНВАЎСЯ ЗАКОН АБ МОВАХ

У мэтах узмацнення кантролю за выкананнем Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» выканкам Маладзечанскага гарсавета прыняў рашэнне, што ўся рэкламна-даведачная інфармацыя (рэкламныя шчыты, шыльды) на тэрыторыі горада, якая супярэчыць артыкулу 31 Закона, а менавіта якая выканана на недзяржаўнай мове, — будзе здымацца.

# СТВАРАЕЦЦА НОВАЕ АБ'ЯДНАННЕ МОЛАДЗІ

У Маладзечне ствараецца Аб'яднанне маладых патрыётаў Беларусі (АМПБ). Гэта непалітычная арганізацыя моладзі, мэта якой — садзейнічаць адраджэнню беларускай нацыі, яе мовы. АМПБ мае намер садзейнічаць і развіццю багатай беларускай культуры, аднаўленню гістарычнай памяці, абуджэнню нацыянальнай свядомасці беларускага народа.

УРАЖАННІ

## Замалёўкі з натуры

# «МАСКВІЧ»

Увечары, калі я прыехаў у родную вёску, селі мы з братам за святочны стол. Спярша завялі гамонку пра радню, а потым, слова за слова, пачалі перабіраць прозвішчы вяскоўцаў. Я распытваў, цікавіўся, хто з іх дзе і як жыве, а брат адказваў.

— А дзе цяпер «масквіч»? — пацікавіўся я, нарэшце, прыгадаўшы мянушку Янкі Сарокі.

— У сваёй хаце жыве. Дзе ж яшчэ яму жыць.

— А цяпер ён «па-вучонаму» шпарыць? — усміхнуўся я. — Не развучыўся?

— Ты лепш спытай пра гэта ў калгасных кароў, якіх ён пасвіць. Яны лепш ведаюць, на якой мове ён з імі мовіць, — засмяяўся брат...

Адразу пасля вайны мы з Янкам вучыліся ў адным класе. У пятым ён адстаў ад мяне — пакінулі на другі год. Потым выключылі са школы, бо не лезла яму ў галаву навука, хоць даўбнёю яе туды заганяй. Хутка Янка падрос і пайшоў рабіць у калгас. І раптам з ім здарылася няшчасце. Гнаў у лесе самагонку і моцна апшпарыў руку. Паклалі яго ў бальніцу. Хутка ён адтуль вярнуўся з забінтаванай рукою, фарсіста пачаў блындацца па вёсцы і з кожным гаварыць «па-руску».

Пагалоска, што Янка ў бальніцы асвоіў гарадскую мову, хутка абляцела нашую вёску, і кожны, сустрэўшы яго на вуліцы, прасіў:

— Скажы, Янка, што-небудзь па-руску. Так, як у Маскве гавораць.

Той выпінаў наперад грудзі і рабіў ваяўнічы выгляд.

— Отойдзі от міня! Іначэ вот как дам сапагом — ногамі накроешся! Панімаеш?

Больш памяркоўныя і дасціпныя дзяды, хаваючы ў вусах усмешкі, пачыналі гаварыць з ім даверліва і лагодна:

— Які прыгожа, Ваня, ты навучыўся гаварыць, — падхвальвалі адны. — Ну, чыста як вучоны чалавек. Як масквіч. Цяпер усе дзяўчаты будуць твае. Кожная з такім гарадскім кавалерам захоча ў скокі пусціцца.

— І як гэта ты за адзін тыдзень насабачыўся па-маскоўску гаварыць? — дапытваліся другія. — Хто цябе ў той бальніцы навучыў?

— Пракурор! — адказваў, не міргнуўшы вокам, ён. — В одной, панімаеш, палаце с нім лежал.

— А не цікавіўся ён часам, якім макарам ты абвараў сабе руку?

— Очень дажэ інцересовался, панімаеш.

— І што ты яму адказаў?

— Сказал, что пажар тушил. Колхозное добро спасал.

Усе клаліся ад рогату, а Янка, задраўшы ганарліва галаву і закапыліўшы губу, браў кірунак у бібліятэку:

— Надо повышать політіцэскі ўровень. Прокурор, панімаеш, советовал.

Толькі мы завялі размову пра «масквіча», як раптам адчыніліся дзверы і на парозе паказалася ягоная постаць. Пастарэлы, са зморшчаным, як высушаная груша, тварам, зірнуў на мяне, падбег.

— Рад відзець вучонага чалавека, рад відзець, — схапіў мяне за руку, доўга яе трос.

Запрасілі да стала. Налілі поўную шклянку гарэлкі. Глынуў яе адным каўтком і закінуў у рот салёны агурок.

— Як жывеш, Янка? — пацікавіўся я, калі «масквіч» праглынуў агурок.

— Отлічна! — выкінуў Янка перад сабою палец. — Полный, панімаеш, парадак!

— О-о! — усміхнуўся я. — Дык ты і цяпер па-маскоўску гаворыш!

— Конечно!

— З каровамі таксама?

— А как жэ.

— Ну, а яны цябе разумеюць?

— Еще как понимают! Особенно которых рускім матам покроеш!

Мы з братам зайшліся ад рогату... «Масквіч» пачакаў, калі

МЕРКАВАННІ

# «НЕ ЎМРУЦЬ УЖО ЯНЫ,

## (Аб патрыятызме і

**Паняцце «патрыятызм» паходзіць ад грэчаскага слова *«патрыс»*, што азначае радзіма, айчына. Патрыятызм — гэта любоў да радзімы, адданасць сваёй Бацькаўшчыне, свайму народу. А патрыёт — чалавек, які любіць сваю айчыну, бясконца адданы свайму народу і гатовы на самаахвярны подзвіг у імя інтарэсаў Бацькаўшчыны. Патрыятызм мае вытокі ў сівой мінуўшчыне. Больш дакладна, з таго часу, калі ўтварыліся ўстойлівыя гістарычныя супольнасці — дзяржавы. Сусветная гісторыя ведае шмат прыкладаў выдатных патрыятычных учынкаў. Так, напрыклад, у Бібліі апавядаецца пра патрыятычны подзвіг іудзейскага прарока Майсея, які самаахвярна вывеў свой народ у запаветны край зямлі Ханаанскай.**

Патрыётамі з'яўляліся і героі гамераўскага эпасу «Іліяда» і «Адысея». Гарачыя патрыёты ў старажытнасці карысталіся ўсенароднай павагай. Як сведчыць гісторык Плутарх, дзяўчаты-прыгажуні публічна выказвалі героям ушанаванне, паэты прысвячалі ім вершы, складалі ў іх гонар оды.

Пасля распаду імперый у Заходняй Еўропе (Аўстра-Венгрыя, Брытанская) на іх развалінах узніклі новыя нацыянальныя дзяржавы, дзе неўзабаве і з'явілася паняцце «нацыянал-патрыятызм», які грунтуецца на лепшых і трывалых нацыянальных традыцыях пэўнага этнасу. Але ілжэпатрыятызм, які замешаны на заквасцы шавінізму, разам з так званым інтэрнацыяналізмам не маюць з сапраўдным патрыятызмам нічога агульнага. Больш таго, яны — антыподы. Каб зразумець гэта, прааналізуем сутнасць сапраўднага патрыятызму, а таксама паспрабуем вызначыць розныя адценні ілжэпатрыятызму.

Як вядома, дзяржавы знаходзяцца ва ўстойлівых узаемасувязях паміж сабою — эканамічных, культурных, палітычных. Каб згаданыя сувязі не пагражалі нацыянальнаму суверэнітэту кожнай дзяржавы, паміж імі павінен існаваць узаемны давер, узаемная павага — без прыкмет гегеманізму, без падкрэслівання свайго нацыянал-патрыятызму, пад маскай якога ў розных праявах часам закамуфляваны звычайны вялікадзяржаўны шавінізм. Таму нацыянал-патрыятызм розных дзяржаў павінен кіравацца дыялектыкай узаемаразумення, узаемапавагі. Сапраўды: патрыёт палка любіць сваю нацыю, сваю родную мову, множыць уласную нацыянальную культуру, захоўвае гістарычную спадчыну і нацыянальныя традыцыі. Але ў той жа час ён з павагай ставіцца да іншых нацый і народаў, да іх мовы, гісторыі, культуры. Якраз пералічанае — вызначальныя рысы сапраўднага патрыёта.

На жаль, гісторыя ведае шмат прыкладаў, калі нацыянал-патрыёты надаюць занадта вялікае значэнне сваім нацыянальным асаблівасцям, а то і фізіялагічным адметнасцям, сцвярджаючы, што ў іх жылах цячэ «лепшая» кроў. Тое ж самае адбываецца, калі імі на кожным кроку падкрэсліваецца уласная моўная перавага. Такія «нацыянал-патрыёты», называючы сваю мову «магутнай і вялікай», а культуру — толькі «вялікай культурай», назойліва навязваюць яе іншым народам. Падобны «нацыянал-патрыятызм» непазбежна набывае адценні шавінізму і абавязкова сублімуецца ў нацыянал-шавінізм. Нацыянал-шавіністы заўсёды прэтэндуюць на ролю гегемона ў міжнацыянальных стасунках, камуфлюючы свае ідэйкі часам у вельмі прывабныя фарбы.

Сапраўдны беларускі нацыянальны патрыятызм узнік у сівой старажытнасці на этнічных землях сучаснай Беларусі. Ля яго вытокаў сталлі слаўныя князі Полаччыны, Наваградчыны, Віленшчыны, якія імкнуліся аб'яднаць народ, каб стварыць трывалы падмурак уласнай дзяржавы для нашчадкаў. Але гісторыя распарадзілася такім чынам, што з XVII стагоддзя пачаўся занепад сапраўднага патрыятызму на Беларусі. Дзеля ўласных эгаістычных мэт здрадзілі свайму народу беларускія магнаты, шляхта, якія ў выніку рэнегацтва дружна ўслаўлялі ўжо «патрыятызм» пад крыламі польскага белага арла. Пазней «патрыёты»-пярэваратні няблага ўладкаваліся і пад расійскім двухгаловым арлом, дапамагаючы царскім сатрапам выкарчоўваць гістарычную Памяць са свядомасці беларускага люду.

У другой палове мінулага стагоддзя нацыянал-патрыятызм на Беларусі ажыў у выніку паўстання 1863—1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Якраз ён у сваіх «Лістах з-пад шыбеніцы» празорліва ўказваў, што менавіта з Масквы нам пагражае велізарная небяспека. У пачатку XX стагоддзя нацыянал-патрыятычны сцяг падхапілі нашаніўцы, якія вуснамі Купалы падкрэслілі, што беларусы хочуць «людзьмі звацца». У 1911 годзе Купала ад імя ўсіх сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны ў паэме «На куццю» патрабаваў: «Аддайце сонца наша нам! Нашто схавалі-расхапалі?.. Аддайце славу нашу нам! Нашто схавалі-расхапалі?.. Аддайце песню нашу нам! Нашто схавалі-расхапалі?»

Узнікненне розных палітычных партый і беларускіх патрыятычных суполак тады з'явілася штуршком для далейшага росту нацыянал-патрыятызму на Беларусі, апагеем якога стала гістарычная падзея 1918 года — абвяшчэнне БНР. Відаць, не варта даказваць, што каб не было БНР, то не было б зараз і суверэннай Рэспублікі Беларусь. Што да БССР, то яна з'явілася марыянеткай, створанай пад эгідай самадзержцаў чырвонага Крамля ў выніку банальнай палітычнай гульні з вядомым тэзісам «самавызначэння народаў аж да аддзялення».

Крыху пагуляўшы ў беларусізацыю, крамлёўскія ідэолагі распачалі змагацца на Беларусі з нацыянал-патрыятызмам, начапіўшы нацыянал-патрыётам ярлыкі «нацдэмаў». Руйнавалі нацыянал-патрыятызм зацята, каб ужо не ажыў ніколі.

Але Беларусь, нібы птушка фенікс, зноў уваскрасае, паўстаючы з попелу. На гэты раз нам паспрыяла так званая перабудова, якая на практыцы ўвасобілася ў распад чырвонай імперыі. На беларускай палітычнай арэне пад дзікае скугаленне магільшчыкаў беларушчыны нарадзіўся нацыянал-патрыятычны рух Беларускі народны фронт. Пад сцягі нацыянальнага Адраджэння сёння становяцца сапраўдныя высакародныя патрыёты Бацькаўшчыны, іх шэрагі растуць і множацца. На жаль, ёсць каму рабіць ім усялякія перашкоды. Супраць БНФ у першую чаргу выступаюць тыя, хто хоча павярнуць кола гісторыі назад. Больш дакладна — у былую таталітарную камуналку пад шыльдай СССР.

Зацятыя ворагі беларушчыны згрупаваліся і ўжо не хаваюць уласных задум. У сваёй стратэгічнай праграме яны («Народны рух Беларусі» і інш.) вызначылі тры галоўныя ідэі: пераадоленне крызісу, барацьба за аднаўленне Саюза, супрацьстаянне нацыяналізму «у любых формах і праявах». Першы пункт праграмы іх мала хвалюе, ён — для адводу вачэй. Галоўная ўвага засяроджана на апошніх. Ачмурэлыя ад натугі «русскоязычные» гарлапаняць аб мэтазгоднасці хутчэйшай інкарпарацыі суверэннай Беларусі ў Расію. Такім чынам, «рухаўцы» свой «патрыятызм» скіравалі

УРАЖАННІ

мы перастанем смяяцца, пацікавіўся ў мяне:

— Ты в настоящэе время гдзе жывёш?

— У Менску, — адказваю.

— А гдзе работаеш?

— У інстытуце.

Ён змоўк, доўга і напружана нешта думаў, потым падняўся з-за стала і падазрона зірнуў у мой бок:

— Не верю, что ты ученый, понімаеш.

— Чаму? — здзівіўся я.

— Учоные на учоном языке разговаривают, а ты — на деревенском. І как цебя учілі в цех інсцітутах? Даже руского языка не вывучил.

Інтарэс у «масквіча» да маёй асобы прапаў, у вачах Янкі Сарокі я згубіў усялякі аўтарытэт, і ён, насунуўшы на галаву шапку, ступіў да парога, азірнуўся і яшчэ раз з дакорам і крыўдай паглядзеў на мяне:

— В інсцітуце, відзіце, он работает... Не надо, панімаеш, меня абманываць. Дурака, відзіце, нашол, не ожидал от цебя такова...

# ТРАВЯНЫ ВЕЦЕР

Адразу пасля вайны, у самую нішчымніцу, кінула, каб не пухнуць з голаду, нашую вёску мая сваячка Палажка. Завербавалася, куды вочы глядзяць, і завёз яе аргнабор аж у Карэлію. На лесапавал. Там нажыла сям'ю і рабіла ў леспрамгасе ажно да самай пенсіі. І вось толькі цяпер — праз сорак пяць гадоў — прыехала, нарэшце, на Бацькаўшчыну.

Прыехала ў сваю родную вёску — ніхто не пазнае. І яна нікога таксама. Ні аднаго знаёмага чалавека. Сабакі — і тыя нейкія чужыя. Азіраецца цётка па баках, хвалюецца, напружваецца нешта ўспомніць, горасна ўздыхае і слёзы самацёкам плывуць па яе шырокім твары, капаюць на грудзі.

Калі падышоў да яе, госця стаяла ля лаўкі сярод сваіх сяброўак дзяцінства.

— Ох, жанкі мілыя! — пляскала яна ў ладкі. — Як у вас добра! І ўсе разам жывяце на роднай зямліцы. А я, сарока, вунь куды заляцела. Там у мяне дом, унукі, карова, але душа сюды, на Бацькаўшчыну, цягне. Тут усё мне роднае. Вунь і неба без хмурынкі, і вецер наш, травяны, з паплавоў. Чабарком пахне. І слоўцы ад вас родныя чую.

Яна глыбока ўздыхае, ловіць ротам, усімі грудзьмі духмяны вецер і, не выціраючы слёз, кажа:

— Вось паеду назад. Цяпер, відаць, назусім. Больш мы не ўбачымся. Нічагусенькі мне не трэба. Толькі дайце набраць зямелькі. Хоць жменьку, хоць шчопатку. Я ж па ёй бегала, калі маленькай была. А цяпер і бацька і маці пад ёю ляжаць. Павязу з сабою гэтую жменьку — хоць калі-нікалі пагладжу яе, памацаю, панюхаю. І зажмуруся. І зажуруся, што на чужой зямлі памру.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

МЕРКАВАННІ

супраць суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, супраць нашых дзяржаўных сімвалаў, за наданне дзяржаўнасці рускай мове, а калі дакладна, — за вяртанне ранейшых парадкаў. На жаль, сярод дзяржаўных дзеячаў знаходзіцца нямала іх аднадумцаў.

настаўнікі роднай мовы карыстаюцца ёю толькі на ўроках. Можна прадбачыць, што ў такіх сем'ях вырастуць манкурты. Ці могуць паспрыяць выхаванню сапраўднага патрыятызму асобныя пісьменнікі, для каго матчына мова — мова прафесіі, а прыярытэт у

# РАЗ ХОЧУЦЬ СОНЦА» ЯГО АНТЫПОДАХ)

Зараз новаспечаныя правадыры НРБ прыкрываюцца псеўдапатрыятычнымі фразамі: «левапатрыятычныя сілы», «левацэнтрысцкія сілы» і г.д. Але яны не выступаюць у абарону нацыянальных інтарэсаў суверэннай Беларусі, а толькі адстойваюць уласныя палітычна-партыйныя амбіцыі. Хоць недаравальна атаясамляць інтарэсы партыі з інтарэсамі нацыі, якую менавіта гэтыя партыі імкнуцца сцерці з палітычнай карты свету. Якой бы тэрміналогіяй яны ні прыкрываліся, несумненна, што НРБ служыць вялікадзяржаўнаму расійскаму нацыянал-шавінізму. Пра гэта проста больш нельга маўчаць!

Міжвольна ўзнікае пытанне: ці можна назваць сапраўднымі патрыётамі дзеячаў, для каго аб'яднанне Беларусі з Расіяй з'яўляецца «мэтай іх жыцця»? Ці можна назваць патрыётамі тых палітыкаў, каму «старэйшы брат» мілей за маці-Радзіму? Ці можна назваць патрыётамі тых «будаўнікоў незалежнай дзяржавы», якія пагражаюць выкарчаваць так званы нацыяналізм з новых падручнікаў па гісторыі Беларусі?

Як вядома, сапраўдны патрыятызм выхоўваецца ў сям'і. Дзе жывуць нацыянальныя традыцыі, дзе ў пашане матчына мова, там і растуць сапраўдныя патрыёты, для якіх Бацькаўшчына вышэй за ўсё. На жаль, нярэдка даводзіцца назіраць і такую з'яву (асабліва ў гарадах), калі сям'і аддаецца мове суседняй дзяржавы? Ці могуць садзейнічаць нацыянальнаму адраджэнню, выхаванню патрыятызму супрацоўнікі некаторых беларускамоўных «раёнак», калі паміж сабою, з наведвальнікамі рэдакцый яны звыкла размаўляюць на «культурном языке»? Такім «патрыётам» варта задумацца над выслоўем вядомага рускага пісьменніка Канстанціна Паустоўскага: па адносінах да роднай мовы можна меркаваць не толькі аб культурным узроўні чалавека, але і аб яго грамадзянскіх вартасцях.

На вялікі жаль, і зараз у вярхах не думаюць (і, відаць, не збіраюцца) праяўляць клопаты аб выхаванні сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны. Вельмі насцярожвае фраза з нядаўняга інтэрв'ю віцэ-прэм'ера: «Нацыянальнага адраджэння мы фарсіраваць не будзем». Што хаваецца за гэтай фразай? Спыненне беларусізацыі ў школах, вузах, ва ўстановах, у сферы культуры?

Але, не зважаючы на скуголенне магільшчыкаў беларушчыны, шэрагі палкіх патрыётаў растуць. Ужо ніякае варожае груганнё не можа спыніць гэты пазітыўны працэс. Што да сапраўдных патрыётаў, то збываюцца прарочыя словы паэмы Я.Купалы, выказаныя Песняром у паэме «На куццю»: «Не ўмруць, не ўмруць ужо яны, раз хочуць сонца»!

**Васіль СОКАЛ.**
Зубялевічы, Брэстчына.

ТЭЛЕЭФІР

***З пачатку 1994 года рэгулярна ў эфір выходзіць тэлепраграма беларускага тэлебачання «АВС-клуб. Англійскую мову вучым самі». Яна адразу была заўважана аматарамі і сустрэта вельмі прыхільна. Трэба адзначыць асаблівасць праграмы: англійская мова тут вывучаецца праз беларускую. Нашы чытачы выказалі пажаданне расказаць у газеце падрабязней аб праграме «Англійскую мову вучым самі». Днямі карэспандэнтка «Нашага слова» сустрэлася з рэдактарам перадачы З.Л.Сафронавай.***

# АНГЛІЙСКАЯ МОВА — ПРАЗ БЕЛАРУСКУЮ. І АТРЫМЛІВАЕЦЦА НЯКЕПСКА

**— Зінаіда Леанідаўна, нашы чытачы ўхвальна выказваюцца аб тэлепраграме «Англійскую мову вучым самі». Я таксама як былая настаўніца англійскай мовы заўсёды з цікавасцю гляджу вашу перадачу. Яна нязмушаная, аптымістычная і вельмі цудоўна, што ў дадатак яшчэ і беларуская. А як сталася, што менавіта Вы ўзяліся рэдагаваць такую праграму? Начальства сказала «трэба» ці па ўласнай ініцыятыве?**

— Найперш хачу сказаць, што я маю самыя непасрэдныя адносіны да англійскай мовы. Скончыла Менскі інстытут замежных моў. На тэлебачанні працую з 1975 года. Стварыць праграму для тых людзей, якія самастойна вывучаюць замежную мову, было маёй марай. Але, на жаль, у тыя часы веданне англійскай ці якой-небудзь іншай замежнай мовы не лічылася асабліва неабходным. Ды і па маскоўскай тэлепраграме давалі ўрокі на ўвесь СССР адразу. Зараз у нашым грамадстве адносіны да замежных моў памяняліся. Як і да беларускай, дарэчы. На тэлебачанне прыходзіла шмат лістоў ад тэлегледачоў з просьбай стварыць праграму ў дапамогу тым, хто самастойна вывучае англійскую мову. Нарэшце ў пачатку 1994 года мы ўпершыню выйшлі ў эфір.

**— На каго ваша праграма найперш разлічана?**

— Яе трэба разглядаць як курсы для пачынаючых. Пазней плануем зрабіць яе для больш падрыхтаваных у моўным плане людзей.

**— А новых «пачаткоўцаў» пакінеце без падтрымкі?**

— Усё будзе залежаць ад таго, наколькі дастаткова мы будзем мець матэрыялаў. Хачу дадаць, што вельмі дапамагае нам у гэтым Брытанскі Савет у Менску. Мы цяпер вельмі залежым ад тэматыкі і накірунку, які нам дыктуе мультфілм Бі-бі-сі «Мазі ў Гондалэндзе» («Mazzy in Gondoland»). Я думаю, што мы зможам так вярнуцца на пачатковы этап на іншай аснове. На матэрыялах, якія будуць узгоднены са спецыялістамі лінгвістычнага універсітэта, мы зробім праграму не ў такім хуткім тэмпе, а засяродзім увагу больш канкрэтна і падрабязна на розных тэматычных і граматычных накірунках мовы.

**— Якая перыядычнасць выхаду праграмы ў эфір?**

— На маю думку, яна патрабуе нетрадыцыйнага падыходу. Праграма павінна быць не толькі цікавай, але і вучэбнай. Мы пачыналі з двухразовага выхаду ў месяц. На першым тыдні рабілі арыгінальную праграму, на наступным — паўтаралі яе. Такім чынам у нас было дзве арыгінальныя праграмы ў месяц і дзве паўторныя. Пачынаючы з красавіка, наш графік памяняўся. Мы выходзім кожны тыдзень у эфір з арыгінальнай праграмай, з яе паўторам на наступны тыдзень. Атрымліваецца ў месяц восем арыгінальных праграм і столькі ж паўтораў.

**— Хто з прафесіяналаў, акрамя Вас, працуе над перадачай?**

— Рэжысёр Людміла Пятроўна Новік. Я пішу сцэнарыі на аснове такога матэрыялу, які ў нас запланаваны на пэўную праграму. З рэжысёрам абмяркоўваем і граматычны матэрыял, а таксама запрашаем дзяцей і дарослых для ўдзелу ў перадачы.

**— У праграме цудоўна гучыць не толькі англійская мова, але і беларуская. Хто так добра працуе над вымаўленнем дзяцей?**

— У асноўным іх школьныя выкладчыкі. У нас сталыя сувязі са спецшколай № 64 з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы і асабліва з гімназіяй № 1 г.Менска. Іх навучэнцы валодаюць як англійскай мовай, так і беларускай. З імі шмат працуюць іх настаўнікі. Хачу сказаць, што пасля некалькіх першых праграм у рэдакцыю тэлефанавалі тэлегледачы і прапаноўвалі свае паслугі, заўвагі, да якіх мы заўсёды прыслухоўваемся.

**— У вашай праграме гучыць брытанскі варыянт англійскай мовы. Але цяпер усё большае прызнанне знаходзіць і амерыканскі.**

— У перспектыве плануем зрабіць праграму, заснаваную на амерыканскім варыянце англійскай мовы ў дапамогу тым, хто гэтым цікавіцца. У чэрвені гэтага года наша здымачная група наведала Злучаныя Штаты Амерыкі. Былі там два тыдні. Прывезлі шмат відэаматэрыялаў пра гісторыю, культуру і адукацыю Амерыкі. Было шмат цікавых сустрэч з амерыканцамі ў іх школах. Гэтыя матэрыялы, безумоўна, лягуць у аснову будучага цыкла перадач, які пачнецца 9 кастрычніка гэтага года. Мы падтрымліваем сувязі з Пасольствамі Вялікабрытаніі і ЗША ў Менску. І спадзяёмся, што яны таксама маюць шмат матэрыялаў, якія яны зацікаўлены прадставіць праграме «АВС-клуб». У перспектыве мы плануем пачаць тэлекурсы на амерыканскім варыянце англійскай мовы, але яны будуць разлічаны на людзей, якія ўжо знаёмыя з мовай у пэўнай ступені і маюць жаданне ўдасканаліць свае веды.

**— На колькі праграма эфектыўная ў вывучэнні англійскай мовы?**

— Я не разглядаю нашу праграму як адзіны варыянт вывучэння замежнай мовы. Гэта павінна быць зразумелым як мага большай колькасці тэлегледачоў. Наша праграма з'яўляецца толькі дапаўненнем да ўсіх іншых метадаў і сродкаў, якія дапамагаюць авалодаць замежнай мовай. Бо для таго, каб яе вывучыць, трэба прыкласці шмат намаганняў і выкарыстоўваць усе магчымыя сродкі.

**— Дзякую за цікавыя паведамленні. Жадаю поспехаў і творчага плёну.**

Распытвала **Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# З КАГОРТЫ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ
## (Цярністы шлях Язэпа Лёсіка)

*«...Родная мова — гэта душа народа, яго скарб, — багацце і аздоба. Толькі праз асвету ў роднай мове мы дойдзем да лепшай долі, толькі яна выведзе нас з цемры на шлях волі, братэрства і светлага разумнага жыцця» (1918 г.).*

*«Літаратурная мова павінна быць морам, куды ўліваюцца народныя дыялекты. Як паасобныя рэчкі гінуць у моры, падымаючы і асвятляючы яго ровень, так і народныя гутаркі павінны разыходзіцца ў літаратурнай мове, каб асвяжаць яе ды павялічваць яе глыбіню і шырыню. Гэта і будзе тым шляхам, па якім павінна ісці наша літаратурная мова ў сваім далейшым развіцці» (1924 г.).*

*«Бяда не ў тым, што літаратурная мова часам пазычае словы; пазычаць трэба, калі іх няма. Калі няма ў краі газы, а яна краю патрэбна, то яе трэба дастаць адтуль, дзе яна ёсць, бо выдумаць сваю газу не можна. Тым часам было б зусім не па-гаспадарску купляць, скажам, нам, беларусінам, лес у суседзяў, калі мы маем свой; таксама зусім неразумна браць чужыя словы, калі ёсць свае, беларускія» (1924 г.).*

**Гэтыя цікавыя і актуальныя для нас і цяпер выказванні аб ролі роднага слова ў жыцці народа, аб шляхах развіцця і ўзбагачэння беларускай літаратурнай мовы новымі сродкамі выражэння, аб стаўленні да запазычанняў належаць грамадскаму дзеячу, вучонаму-мовазнаўцу і пісьменніку Язэпу Лёсіку, якога за адданасць ідэі нацыянальнага адраджэння Беларусі камуністычны рэжым знішчыў фізічна і строга забараняў нават успамінаць яго прозвішча.**

**Язэп Юр'евіч Лёсік нарадзіўся 6 лістапада 1884 года ў вёсцы Мікалаеўшчына былога Менскага павета** ў мнагадзетнай сялянскай сям'і. Паспяхова скончыўшы мясцовую народную школу, два гады самастойна рыхтаваўся і ў 1898 годзе паступіў у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Аднак з другога класа за свавольны характар і частыя спрэчкі з выкладчыкамі быў выключаны. Засмучонага юнака выручыў старэйшы брат Антон. Ён уладкаваў яго ў апошні клас Ноўгарад-Северскага, што на Палтаўшчыне, гарадскога вучылішча, дзе сам у гэты час працаваў выкладчыкам. Праз год Язэп скончыў гэтую навучальную ўстанову, затым здаў пры Ноўгарад-Северскай гімназіі экзамены на годнасць народнага настаўніка і быў пасланы на працу ў Бабруйскую сельскагаспадарчую школу. Праз год пераехаў на Палтаўшчыну і працаваў настаўнікам у мястэчку Грамяч. Калі пачалася першая руская рэвалюцыя, вёў антыўрадавую прапаганду сярод мясцовага насельніцтва, за што ў канцы 1905 года быў арыштаваны і больш за год прасядзеў у Ноўгарад-Северскай турме. Там дарма часу не губляў: займаўся самаадукацыяй. У 1907 годзе Я.Лёсіка перавезлі на суд у горад Старадуб. Адтуль ён уцёк і каля двух гадоў жыў у розных месцах нелегальна. На пачатку 1911 года пад час наведвання брата ў Ноўгарад-Северску быў арыштаваны і асуджаны на бестэрміновую высылку ў Сібір. Жыў у Кірэнскім павеце, займаўся фізічнай працай, некаторы час служыў пісарчуком, многа чытаў, наладзіў супрацоўніцтва з газетай «Наша Ніва». Пасля Лютаўскай рэвалюцыі вызваліўся, пераехаў у Менск і распачаў актыўную палітычную дзейнасць, скіраваную на ўстанаўленне дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Ён увайшоў у партыю Беларускай сацыялістычнай грамады, ў 1918 годзе стаў адным са стваральнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, уваходзіў у склад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і каля года ўзначальваў яе, рэдагаваў газету «Вольная Беларусь», а потым газету «Беларусь». На старонках гэтых і іншых перыядычных выданняў часта выступаў з публіцыстычнымі і навуковымі артыкуламі («Нацыянальны ўціск», «Што рабіць?», «Для чаго і як пішуцца прыгаворы пра навучанне ў роднай мове», «Памятка беларусам маскоўскай прыхільнасці», «Граматыка і родная мова», «Наш правапіс» і інш.), з мастацкімі творамі («Апавяданне без назвы», «Нёман»). Калі Беларусь была вызвалена ад белапольскіх акупантаў, заявіў аб прызнанні прынцыпаў Савецкай улады, адышоў ад палітыкі і пачаў займацца выключна педагагічнай і навуковай дзейнасцю.

Педагагічную дзейнасць Я.Лёсік вёў у Белдзяржуніверсітэце, Белпедтэхнікуме і на шматлікіх курсах беларусазнаўства, а навуковую — у Тэрміналагічнай камісіі пры Народным камісарыяце асветы, а потым у Інстытуце беларускай культуры. У гэтай даследчай установе ўзначальваў Тэрміналагічную камісію, а з 1927 года з'яўляўся дырэктарам Інстытута навуковай мовы.

Як старшыня Тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы і Інбелкульта Я.Лёсік удзельнічаў у апрацоўцы каля 3000 навуковых тэрмінаў па матэматыцы, літаратуры, батаніцы і іншых ведах у аб'ёме сярэдняй школы, а затым 24 выпускаў беларускай тэрміналогіі па ўсіх асноўных галінах навукі. Сам асабіста ён апрацаваў мовазнаўчую тэрміналогію. Апрацаваная Я.Лёсікам падчас працы ў Народным камісарыяце асветы «Граматычная тэрміналогія» была апублікавана ў 2-м нумары за 1921 год часопіса «Вестник Народного комиссариата просвещения ССРБ». Яна давала пераклад з рускай мовы на беларускую 307 граматычных тэрмінаў. У 1927 годзе пад грыфам «Беларуская навуковая тэрміналогія. Выпуск 15» выйшаў апрацаваны Я.Лёсікам «Слоўнік граматычна-лінгвістычны». Ён налічваў ужо 1592 беларускія тэрміны. Яны спачатку пададзены як перакладныя эквіваленты да прынятых у рускай літаратурнай мове тэрмінаў пад назвай «Расійска-беларускі слоўнік», а потым пералічаны асобна ў якасці індэкса да яго пад назвай «Слоўнік беларускіх тэрмінаў». З прапанаваных Я.Лёсікам лінгвістычных тэрмінаў значная колькасць была ўведзена ў навуковы зварот упершыню і трывала замацавалася ў мовазнаўчай практыцы (напрыклад, выказнік, двукоссе, дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе, дужкі, займеннік, злучнік, кропка, назоўнік, прыметнік, прыназоўнік, суфікс, шматкроп'е і некаторыя іншыя).

Я.Лёсік многа ўвагі ўдзяляў падрыхтоўцы школьных падручнікаў. У 1920 годзе выйшла з друку складзеная ім чытанка для беларускіх школ «Наша крыніца». Яна двойчы перавыдавалася: у 1922 годзе ў Берліне і ў 1927 годзе ў Рызе з асобнымі дадаткамі, зробленымі К.Езавітавым з мэтай дастасаваць гэтую чытанку для патрэб беларускіх школ у Латвіі. Складаецца чытанка з чатырох раздзелаў, прысвечаных порам года. Кожны раздзел складаецца з мастацкіх, навукова-папулярных і фальклорных твораў, сваім зместам так ці інакш звязаных з пэўнай парой года. Яны вельмі ўдала падабраны, але пададзены без вучэбных заданняў і пытанняў.

**У 1921 годзе была выдадзена створаная Я.Лёсікам «Практычная граматыка беларускае мовы. Курс першы».** Яна змяшчала 60 тэарэтычных параграфаў па фанетыцы, марфалогіі, сінтаксісу і правапісу, названых «правіламі». Гэтыя «правілы» кароценькія (з аднаго-двух сказаў) аб самых асноўных граматычных з'явах. Напрыклад, звесткі пра назоўнік і дзеяслоў абмежаваны толькі кароткімі азначэннямі гэтых часцін мовы, прыметніку прысвечаны два кароценькія параграфы. Іншыя часціны мовы ў падручніку наогул не ўспамінаюцца.

Калі звесткі па тэарэтычных пытаннях выбарачныя і вельмі фрагментарныя, то практычныя заданні да іх вызначаюцца багаццем і разнастайнасцю. Праз год гэты падручнік быў перавыдадзены ў значна пашыраным выглядзе. Адначасова выйшла і другая частка яго. Яна, відаць, прызначалася для вучняў сярэдніх класаў, бо давала сістэматычныя звесткі па ўсяму курсу граматыкі і больш разгорнута.

Абедзве часткі «Практычнай граматыкі беларускае мовы» аўтарам потым былі аб'яднаны, значна дапрацаваны і ў 1924 годзе выдадзены пад назвай «Пачатковая граматыка». Яна мела чатыры раздзелы: 1) Мова, слова, гук; 2) Просты сказ; 3) Часціны мовы; 4) Складаны сказ. Праз год «Пачатковая граматыка» выйшла другім выданнем з нязначнымі зменамі і ўдакладненнямі. Фактычна яна з'яўлялася 3-м выданнем «Практычнай граматыкі беларускае мовы», на аснове якой і была створана. Так лічыў і сам аўтар, бо наступныя выданні гэтага падручніка, якія ўжо выходзілі пад назвай «Школьная граматыка беларускае мовы», пазначаны як 4-е (1926), 5-е (1927) і г.д. Апошнім, 8-м выданнем гэты падручнік выйшаў у 1929 годзе. Ад выдання да выдання ён дапрацоўваўся і ўдасканальваўся. Апошнія выданні «Школьнай граматыкі беларускае мовы» па аб'ёму выкладзеных звестак і іх навуковасці стаяць на ўзроўні сучасных школьных граматык, а ў некаторых адносінах і пераўзыходзяць іх. Па гэтаму падручніку навучалася беларускай мове цэлае пакаленне беларускай моладзі.

На аснове лекцый, чытаных у Белдзяржуніверсітэце, Я.Лёсік стварыў навуковы курс беларускай літаратурнай мовы для настаўнікаў, выкладчыкаў педтэхнікумаў і самаадукацыі з трох кніг: «Граматыка беларускае мовы. Фанетыка» (1926), «Граматыка беларускае мовы. Марфалогія» (1927) і «Сінтаксіс беларускае мовы» (1925, 2-е выд. — 1926). Ад «Школьнай граматыкі беларускае мовы» гэтыя кнігі адрозніваюцца шырынёй ахопу моўных з'яў і тэарэтычнай грунтоўнасцю іх асвятлення. Яны пададзены з гістарычнымі каментарыямі, з указаннем ступені пашыранасці ў беларускай мове, іх літаратурнасці ці нелітаратурнасці, прыводзяцца звесткі і агульналінгвістычнага характару.

Пры распрацоўцы і перавыданні граматык беларускай мовы Я.Лёсік паступова выключаў з іх правілы і практыкаванні па правапісу. Тлумачыцца гэта тым, што ён лічыў правапіс дысцыплінай не навуковай, а прыкладной, якая павінна быць вылучана з граматыкі і пададзена асобным падручнікам. Да напісання яго прыступіў адразу ж пасля выдання сваёй «Практычнай граматыкі беларускай мовы». **Падручнік Я.Лёсіка «Беларуская мова. Правапіс» выйшаў з друку ў 1924 годзе.** Ён складаўся з двух раздзелаў: 1) Правапіс літар, гукаў і слоў, 2) Знакі прыпынку. Першы раздзел уключаў 21 правіла, а другі — 13. Сфармуляваныя ў першым раздзеле правілы заснаваны, як і ў «Беларускай граматыцы для школ» Б.Тарашкевіча, на трох прынцыпах (фанетычным — для напісання галосных, марфалагічным — для напісання зычных і традыцыйным — для напісання яшчэ слаба асвоеных беларускай мовай запазычаных слоў) з некаторымі адступленнямі ад кожнага. Да арфаграфічных і пунктуацыйных правіл даны практыкаванні — тэксты для спісвання і наглядання над напісаннем гукаў і расстаноўкай знакаў прыпынку, пасля раздзелаў — кантрольныя пытанні для самаправеркі і тэкставыя матэрыялы для паўтарэння. У прадмове, адрасаванай настаўнікам (с. 3-16), аўтар выказаў цікавыя думкі пра лінгвістычную сутнасць граматыкі і правапісу і іх узаемаадносіны, сваё разуменне методыкі навучання правапісу. Гэты падручнік потым сем разоў перавыдаваўся пад назвай «Беларускі правапіс» са зменамі, дапаўненнямі і ўдакладненнямі. Так, у 2-е выданне (1925) унесены параграфы «Правапіс прыслоўяў», «Правапіс злучнікаў і дапаможнікаў», «Правапіс складаных слоў». Асабліва грунтоўна было перапрацавана 4-е выданне (1926).

Я.Лёсік прымаў удзел у рабоце Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (1926) і выступіў па ёй з двума грунтоўнымі дакладамі: «Да рэформы беларускай азбукі» і «Да рэформы беларускага правапісу». У першым дакладзе ён прапанаваў: 1) Увесці літару *j* (ёт) замест й (*краj, гуляj*) і перадаваць ёю спалучэнне сярэдненёбнага мяккага зычнага з галоснымі гукамі *а, о, э, у* у пачатку складоў замест літар *я, ё, е, ю* (*маjа, jолка, jэхаць, стаjу*), пакінуўшы апошнія для абазначэння адпаведнага галоснага гука і мяккасці папярэдняга зычнага (*мяса, лес, людзі*). 2) Замяніць літару э літарай є. 3) Замяніць літару *ы* літарай *и*. 4) Гукі *дз* і *дж* перадаваць літарамі *д* і *ж* з дыякрытычным значком зверху (д̆, ӂ). З гэтых прапаноў графічнай камісіяй канферэнцыі і невялікай большасцю галасоў была прынята толькі першая. У другім дакладзе Я.Лёсік прапаноўваў: 1) Перавесці беларускую арфаграфію поўнасцю на фанетычны прынцып, гэта значыць усе галосныя няверхняга пад'ёму ў ненаціскных складах пасля цвёрдых зычных перадаваць літарай *а* (*баранаваць, дапо*), а пасля мяккіх зычных — літарай *я* (*сялянін, восянь*), перадаваць пазіцыйнае азванчэнне і аглушэнне зычных, за выключэннем канцовых (*казьба* ад касіць, *ношка* ад нага, але: *воз, рог*). 2) Гукі *й, ў*, калі яны стаяць асобна (злучнік, прыназоўнік) або ў пачатку слова пасля канцавага галоснага папярэдніх слоў, перадаваць праз *і, у*. 3) Пазіцыйную мяккасць не абазначаць мяккім знакам (*каменне, снег*, а не *каменьне, сьнег*). Усе гэтыя прапановы канферэнцыяй не былі прыняты, аднак апошняя пазней была ўнесена ў Праекты беларускага правапісу 1930 і 1933 гадоў і ўзаконена Пастановай СНК БССР ад 23 жніўня 1933 года «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу».

Я.Лёсік часта выступаў у друку з грунтоўнымі артыкуламі на розныя мовазнаўчыя тэмы. Асаблівай увагі заслугоўваюць яго артыкулы «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы» (друкаваўся ў трох нумарах часопіса «Полымя» за 1924 год), «Граматычны склад мовы Ц.Гартнага» (друкаваўся ў трох нумарах таго ж часопіса за 1928 і 1929 гады). Першым з гэтых артыкулаў аўтар фактычна закладваў асновы навукі аб культуры беларускай літаратурнай мовы, а другім — асновы навукі аб мове мастацкай літаратуры і аўтарскіх стылях. Вельмі змястоўныя і цікавыя артыкулы Я.Лёсіка «Культурны стан Беларусі к моманту Лютаўскай рэвалюцыі: Гістарычна-абычаёвы нарыс» (1924) і «Графіка, правапіс і мова ў тэстаменце кн. Саломерацкага і ў двух другіх дакументах з папер Саломерацкіх XVI ст.» (1929). Нельга не адзначыць і таго, што Я.Лёсік першым пераклаў на беларускую мову «Камуністычны маніфест» К.Маркса і Ф.Энгельса. Пераклад гэты (1923) атрымаў у той час высокую ацэнку спецыялістаў.

Аўтарытэт Я.Лёсіка як таленавітага мовазнаўцы несупынна рос. Вось чаму пасля рэарганізацыі Інбелкульта ў Акадэмію навук ён Пастановай СНК ад 26 снежня 1928 года быў зацверджаны правадзейным членам яе. Аднак працаваць у гэтым новым вучоным званні Я.Лёсіку прыйшлося нядоўга. **17 ліпеня 1930 года ён быў арыштаваны і па надуманаму абвінавачванню ў буржуазным нацыяналізме і іншых "грахах" 10 красавіка 1931 года асуджаны на пяць гадоў высылкі ў Саратаўскую вобласць.** Жыў там у горадзе Аткарску, затым у Дубоўцы, выкладаў рускую мову і літаратуру ў педтэхнікумах. Калі скончыўся тэрмін высылкі, прыехаў у Менск, аднак тут яму жыць не дазволілі. Каб быць паблізу роднай Беларусі, уладкаваўся настаўнікам на станцыі Злынка Бранскай вобласці. Праз год па загаду НКУС вярнуўся на Саратаўшчыну, пасяліўся ў горадзе Аткарску і працаваў у педтэхнікуме. Але і там Я.Лёсіка не пакінулі ў спакоі: у 1938 годзе ён быў зноў арыштаваны. Пры вобыску забралі ўсе яго паперы, у тым ліку і рукапіс падручніка для педтэхнікумаў «Русский язык. Синтаксис», ужо амаль завершанага. У Саратаўскай турме Я.Лёсіка трымалі доўга, вялі знясільныя допыты і толькі 31 сакавіка 1940 года асудзілі зноў на 5 гадоў, але ўжо не высылкі, а папраўча-працоўных лагераў. Праз некаторы час жонка атрымала ад турэмнага начальства паведамленне, што яе муж памёр 1 красавіка 1940 года ад туберкулёзу. У названай прычыне смерці можна сумнявацца і думаць, што Я.Лёсік быў закатаваны на допытах ці нават расстраляны. Так закончылася жыццё народнага самародка, слаўнага сына Беларусі, які так многа зрабіў для яе культуры, а мог бы зрабіць яшчэ болей, калі б не арышты і турмы ў самым росквіце творчых сіл. Паколькі Я.Лёсік ва ўсіх адносінах быў фігурай вельмі буйнога маштабу, то яму, каб падарваць беларускую адраджэнскую ідэю, было прад'яўлена столькі надуманых абвінавачванняў, што афіцыйныя ўлады і пасля развянчання культу асобы Сталіна і нават пры гарбачоўскай перабудове не рашаліся яго поўнасцю рэабілітаваць і па запатрабаванні шырокай беларускай грамадскасці зрабілі гэта толькі 10 чэрвеня 1988 года, у маі ж 1990 аднавілі і ў званні акадэміка.

Нарэшце, хоць і са спазненнем, справядлівасць перамагла, добрае імя Я.Лёсіка вернута нашчадкам, а яго падручнікі і навуковыя працы з бібліятэчных спецсховішчаў перададзены ў чытальныя залы і сталі даступнымі ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, беларускім мовазнаўствам і беларускай культурай наогул. Цяпер трэба было б некаторыя з яго публіцыстычных і навуковых прац і перавыдаць, бо яны ўжо даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю.

**Іван ГЕРМАНОВІЧ.**

Мікалай КРЫЎКО

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**1. ПАСТАЯ́ННЫ** (які не спыняецца, які працягваецца ўвесь час) *Зжылася, звыклася жанчына з пастаяннай трывогай за мужа* (Васілевіч). *Нам неабходна ўстанавіць пастаянны нагляд за Грыбоўскім і дзедам Гаўрылам* (Курто), **БЕСПЕРАПЫ́ННЫ** *Звязаўшы сноп, жняя павольна выпроствае спіну, здранцвелую ад бесперапыннага згінання* (Мележ). *Больш за два тыдні ішлі бесперапынныя, нечуванай лютасці баі* (Кулакоўскі), **БЕЗУПЫ́ННЫ** *Бабка Наста гаварыла доўга і многа.. Гутарка лілася безупынным зацяжным восеньскім дожджыкам* (Колас). *У вершалінах старых хвояў стаяў безупынны і роўны, як вечнасць, шум* (Чорны), **НЯСПЫ́ННЫ** *Няспынныя грымоты разлягаліся над горадам...* (Якімовіч). *Люблю раку за рух няспынны, А зоры – за іх вечны бляск* (Прануза). *Рукі і ногі мае ад няспынных трэніровак наліваліся сілай* (Лупсякоў).

**2. ПАСТАЯ́ННЫ** (які ўвесь час застаецца адным і тым жа, не мяняецца) *Справядлівасць – гэта нейкая пастаянная велічыня, нейкая сфера пастаяннай тэмпературы* (Лобан). *Марына ўжо так не абуралася, слухаючы балбатню матчыных заказчыц. Яны ў большасці былі пастаянныя, прыходзілі часта* (Шахавец), **НЯЗМЕ́ННЫ** *Вядома адно, што хуткасці, вышыні ўзрастаюць штодзень. Арганізм жа застаецца нязменным* (Алешка). *Нязменны клімат*, **УСТО́ЙЛІВЫ** (які не мяняецца на працягу якога-н., больш ці менш доўгага тэрміну) *Але пры ўсіх зменах ёсць штосьці ўстойлівае, агульнае ў спадзяваннях і ідэалах народных мас у розныя эпохі чалавечай гісторыі* (Перкін). *Перадавыя раёны і гаспадаркі абавязаліся дасягнуць высокіх, устойлівых ураджаяў сельскагаспадарчых культур* («Звязда»), **СТАБІЛЬНЫ** *Выкруціўся, на токара пайшоў, заробак у яго стабільны, ды і за каўнер не капае* (Сузін). *Сакрэт стабільнай высокай ураджайнасці другога хлеба ў тым, што яго вырошчванне перададзена ў рукі механізатараў* («Звязда»), **КАНСТА́НТНЫ** кніжнае *Канстантныя формы.* – *Антонімы:* **Няўстойлівы, непастаянны, пераменны, зменлівы, пераменлівы, капрызны.**

**3. ПАСТАЯ́ННЫ** (такі, які мае месца або ўласцівы каму-, чаму-н. заўсёды, пастаянна) *Рамантыцы, напорыстасці і пастаяннаму аптымізму Юзіка не хапала часам сталасці і сур'ёзнасці Хадкевіча* (Васілевіч), **НЯЗМЕ́ННЫ** *Таго, хто выходзіць з аўдыторыі,.. сустракаюць нязменным пытаннем: – Ну як?* (Шахавец). *На другі месяц, хоць кажуць і мёд прыядаецца, Антось для Олі заставаўся нязменным* (Гроднеў), **ЗАЎСЁДАШНІ** і **ЗАЎСЁДНЫ** *У цэху быў заўсёдашні рытм працы* (Сабаленка). *Бацька і маці звычайна спакойна выслухоўвалі дзеда – яго заўсёдашняя пахвальба была ім у прывычку* (Лынькоў). *У сям'і Савекіна была заўсёдная ўзаемнасць і ўзаемапавага* (Кавалёў). *Ці абзавешся хоць траха мне, Ці ў далях знікнеш, як смуга, Маё апошняе каханне, Мая заўсёдная туга!* (Лужанін), **ВЕ́ЧНЫ** узмацняльнае *Наш хлебадаўца прыйшоў, – прабаваў жартаваць бацька Карл Мейль, дымячы сваёй вечнай люлькай* (Бядуля). *За гады партызанскага жыцця Кастусь звыкся з вечнай небяспекай, звыкся з лесам* (Ваданосаў). *Пад вечны крык у высях журайліных Сніш маладосць сваю ўдалечыні* (Дукса).

**ПАСТУ́КВАННЕ** (стуканне час ад часу, аднастайнае працяглае стуканне, а таксама гукі такога дзеяння) *На халастым хаду, з металічным пастукваннем, працаваў матор* (Савіцкі). *Ні на хвіліну не змаўкае рытмічнае пастукванне колаў на стыках рэек* (Шыловіч). *Здалёк даносілася частае пастукванне нашых зенітак* (Кулакоўскі), **ПО́СТУК** *Пад аднастайны пастук вагонных колаў Лебедзеў расказвае пра Сібір* (Даніленка).

**ПАСТУПІЦЬ** (быць прынятым, залічаным куды-н. у якасці каго-н.) *І таму, як толькі пасля вайны часць, у якой ён служыў, вярнулася на радзіму, сяржант Лемяшэвіч паступіў у дзесяты клас вячэрняй школы* (Шамякін), *Паступіць на завод яму [Тарасу] параіў Андрэй Міхайлавіч* (Якімовіч). **УЛАДКАВА́ЦЦА** (паступіць куды-н., затраціўшы некаторыя намаганні, пераадолеўшы якія-н. цяжкасці) *Уладкаваўся [Якаў] у пякарні, далі яму там белы фартух і белы каўпак* (Кулакоўскі). *Аб тым, каб Антону ўладкавацца на бураву́ю, – рашылі і маці, і дачка* (Даніленка), **УЛА́ДЗІЦЦА** размоўнае *[Янку] хацелася сумленна ўладзіцца на працу, быць бліжэй да універсітэта* (Асіпенка). *Ліда Данілава ўладзілася прасавальшчыцай сена на адной з.. фуражных баз* (Брыль), **УСТРО́ІЦЦА** *У Ключыку ўстроіўся я батраком* (Гарэцкі). *Кулік, які пераходзіў якраз на завочнае, прыняў на сябе ўсю віну і гэтым самым выратаваў таварышаў. Сам устроіўся ў школу, але адразу ж зрэзаўся з дырэктарам* (Дамашэвіч), **ЗАЛІЧЫЦЦА** (быць залічаным куды-н., пераважна ў навучальную ўстанову, на вайсковую службу) *Залічыўся ў яго [аркестр] і Мажэйка, які калісьці ў школьным гуртку мастацкай самадзейнасці іграў на трубе* (Шахавец), **ТРА́ПІЦЬ** *[Стэфа:] – Скажы, Міхась, а як ты трапіў у плытагоны?* (Савіцкі). *Пазней між іншым, адзін з іх [сяброў] трапіў у авіяцыю, а другі прысвяціў сябе медыцыне* (Аўрамчык), **ПАПА́СЦІ** *Варлен закончыў факультэт раслінаводчы, Дыплом з адзнакай атрымаў – Яму у рукі й карты: Адразу ж са студэнцкай парты У аспіранты ён папаў* (Маеўскі), **ПРЫЛА́ДЗІЦЦА** разм. *Брат Ціхан вярнуўся з вайны, але жыць дома не стаў – паехаў у Сібір і прыладзіўся там недзе на чыгунцы* (Хадкевіч). *Казалі людзі, пашанцавала Сымону: прыладзіўся недзе служыць стрэлачнікам* (Шынклер), **ПРЫМАЙСТРАВА́ЦЦА** разм. *Некалькі чалавек нават прымайстраваліся на працу ў горадзе* (Карпюк), **ПРЫСТРО́ІЦЦА** разм., пагардлівае – *Каб як гэта мне дзе-небудзь прыстроіцца – рабіць па сваёй сіле, каб ніхто не мяшаў мне жыць* (Чорны). *– Ці не хочаш ты, дзед, ключнікам прыстроіцца? – запытаў Максім Ус* (Грахоўскі), **ПРЫТКНУ́ЦЦА** разм., пагард. (паступіць куды-н. з-за адсутнасці лепшага месца, лепшай працы і пад.) *Сайка ляжаў і думаў. У такім цяжкім беспрасветным стане ён не быў ніколі. Куды ж яму падацца і што рабіць? Дзе ён цяпер прыткнецца?..* (Колас). *[Сёмка:] – У клубе якраз пасада кінамеханіка пуставала. От і прыткнуўся я туды* (Кандрусевіч), **ПРЫТО́РКНУЦЦА** разм., пагард. *Пryторкнуцца ў канторы,* **ПРЫЛЯПІЦЦА** разм., пагард. *Адсюль вытурылі, дык ён у Валжэвічах прыляпіўся* («Маладосць»). – *Незакончанае трыванне:* **Паступа́ць, уладко́ўвацца, ула́джвацца, устро́йвацца, залі́чвацца і залі́чацца, трапля́ць, папада́ць, прыла́джвацца, прымайстро́ўвацца, прыстро́йвацца, прытыка́цца, прыто́рквацца, прыле́плівацца і прыляпля́цца.**

Леанід БУРАК,

заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар

УДАКЛАДНІМ

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАХ

## з) Складаназалежныя сказы з дададзенымі часткамі мэты

1. Даданая частка мэты звязваецца з галоўнай часткай складаназалежнага сказа пры дапамозе злучнікаў **каб, абы** і інш., перад якімі звычайна ставіцца коска: *Зямля залатая руду аддавала, каб домны кіпелі патопам металу* (А.Вялюгін). *Трэба выцерпець шмат за айчыну, каб яе навучыцца любіць* (А.Звонак). *Работа зроблена дасканала, на тое каб яе ўжо не перарабляць* (М.Гарэцкі).

Але калі на адзін з кампанентаў такіх злучнікаў прыпадае лагічны націск, то пасля яго ставіцца коска, а ролю злучніка выконваюць тыя кампаненты, якія размешчаны пасля коскі: *Я вярнуўся затым, каб засведчыць усім вернасць марам – абы напалохаць дзяцей* (П.Галавач).

Пры асабліва ўзмоцненай інтанацыі і лагічным расчляненні складаназалежнага сказа на дзве часткі з працяглай паўзай і аслабленай сувяззю паміж імі можа ставіцца коска з працяжнікам: *Каб былі шчаслівыя нашы дні, – я пайшоў рэспубліку бараніць* (П.Глебка). *Каб у зман*

*Яны ўдвух усю ноч блыталіся па цёмных закутках, абы не натрапіць на чужыя вочы* (Кузьма Чорны). *Дасі абяцанне любое, абы крыку таго не чуць* (П.Глебка).

2. Калі на складаныя злучнікі **для таго каб, на тое каб** і інш. не прыпадае лагічны націск, то гэтыя злучнікі коскай не раздзяляюцца: *Для таго каб праца давала плённыя вынікі, трэба прывучаць да сталых і сур'ёзных адносін да яе з малалых гадоў* (Якуб Колас). *Блецька прыкладаў усе свае сілы, дзеля таго каб хутчэй збыліся яго жаданні* (Кузьма Чорны). *сваім, як жыццё, маладым* (А.Куляшоў). Параўн.: *Не для таго мы гадавалі дзяцей, каб яны пад старасць нам не памаглі* (І.Грамовіч).

3. Калі даданая частка мэты (перад галоўнай часткай ці пасля яе) суправаджаецца ўзмоцненай інтанацыяй, тады яна аддзяляецца ад галоўнай часткі пры дапамозе працяжніка: *Каб багата радзіла наша зямля – трэба за ёй як за дзіцем глядзець* (Змітрок Бядуля). *На плечы ён накінуў старэнькі светлы плашч – каб не запыліць касцюм* (І.Шамякін). *Крычыць жа ён чужынца ўвесці, – мы ўсе ў адзін ступаем след* (А.Астрэйка).

4. Пры дапамозе коскі з працяжнікам звычайна аддзяляецца галоўная частка, якая размешчана ў пачатку складаназалежнага сказа, мае надзвычай развітую будову і свае знакі прыпынку: *Павязлі цягнікі восень з вёсак у горад праз імглу, праз іржышчы, бары, – каб з антонавак сонца і з стагоў памідораў дагарала на шыбах вітрын* (М.Танк). *На гэту ночы ціш нямую, на гэты сон жывых кругом пасеяць чары слоў спрабую, – каб вольным зажылі жыццём* (М.Машара).

ЧЫТАЕМ КАЗКІ

Здзіслаў СІЦЬКО

# ПАДЧАРКІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

Працягваем пра ваўка памоўку, або як кажа В.Ластоўскі, узмоўку. Культ ваўка, як ужо гаварылася, нашы прашчуры ўстанавілі вельмі даўно. І хоць пазней з'явіліся іншыя культы, хрысціянскія, аднак шматтысячагадовы пласт нашай культуры не знік. Ён захаваўся, і ў мінулым стагоддзі ў чарговы, магчыма, апошні раз праявіўся, праявіўся менавіта праз міфалагічны вобраз ваўкалака. І ён сілкаваў новую беларускую культуру, незалежна ад таго, дзе яна бытавала — ці ў палацы, ці ў сялянскай хаце. А таму і з'явіліся Багрымавы «...у ваўкалака абярнуся», таму і граф Альгерд Абуховіч стварыў цудоўную баладу «Ваўкалак».

На жаль, даследнікі не звярнулі ўвагі на вельмі цікавы факт. Згадкі пра ваўкалакаў, а ў нашым выпадку, літаратурныя творы, у якіх выкарыстаны вобраз ваўкалака, з'яўляліся ў крытычныя, драматычныя моманты нашай гісторыі. Да ўяўлення пра надзвычайныя, надпрыродныя магчымасці чалавека сягнуў аўтар «Слова пра паход Ігараў», дзе славуты полацкі князь Усяслаў Чарадзей, постаць гістарычная і гераічная, з волі аўтара «въ ночь влъкомъ рыскаше: изъ Кыева дорыскаше до куръ Тмутороканя, великому Хръсова влъкомъ путь прерыскаше». І рабіў Усяслаў Полацкі ўсё гэта дзеля абароны сваёй Бацькаўшчыны. І Багрым згадаў ваўкалака, калі крашынскіх мяшчан намерыліся зрабіць прыгоннымі, а яго аддаць «у маскалі». І паўстанец 1863 года граф Абуховіч напісаў, што «лепш быць вольным ваўкалакам, чым на прывязі сабакам».

Гэткі феномен у творчасці такіх розных паэтаў можна тлумачыць пошукам незвычайнага вобраза, што здолеў бы моцна ўздзейнічаць. Але чым можна вытлумачыць факт паўсюднага на Беларусі бытавання легенд пра ваўкалакаў, пра магчымасць чалавека абярнуцца ваўком? Перш, безумоўна, тысячагоддзямі існавання культу ваўка і адпаведных яму абрадаў, ад якіх і пайшла адметная з'ява — ваўкалакі. Пра гэты феномен нашай культуры згадваў грэцкі гісторык Герадот больш за дзве тысячы гадоў таму. У сваёй «Гісторыі» ён напісаў: «Кожны неўр штогод на некалькі дзён перакідваецца ў ваўка, а пасля зноў прымае чалавечае аблічча...» (Неўры, якіх шмат хто з даследнікаў лічыць славянамі, жылі на поўнач ад ракі Прыпяць.)

Але не толькі даўнімі, глыбокімі традыцыямі абгрунтоўваецца ваўкалацтва. Людзям патрэбен быў апякун, заступнік і абаронца, магчыма, нат не той першапродак, які з цягам часу быў заменены, бо ад нараджэння Хрыста людзі з просьбамі сталі звяртацца да Бога, а хтосьці, хто мог з'явіцца ў воўчай шкуры.

Звярыныя шкуры здаўна выкарыстоўваліся ў абрадах. Прыкладам, у Малой Азіі, у турэцкай анатоліі археолагі раскапалі старажытнае (7-6 тысячагоддзі да Хрыстовага нараджэння) паселішча з магіламі пад падлогай і палка́мі, дзе былі пахаваны людзі ў звярыных шкурах; у «бажніцы» на сценах былі намаляваны выявы мужчын з целам чырвонага колеру, апранутых у белае адзенне (бел-чырвона-белае спалучэнне!). Апроч таго, там намаляваны мужчыны, апранутыя ў звярыныя шкуры. Навукоўцы лічаць, што такімі былі цырыманіяльныя ўборы неалітычных земляробаў.

## КРЫВЫ ВОЎК

Узмоўкі пра ваўка былі б не поўныя, каб мы не згадалі пра тое, якім падаецца гэты звер у нашых чарадзейных казках. У адной з іх, якая называецца «Воўк», гэты звер паўстае зычлівым да чалавека, дапамагае і навучае, як таму выканаць патрабаванні, што для чалавека амаль неадольныя. Тут воўк надзелены ўласцівасцю пераўвасабляцца ў розных іншых істот, а таксама магчымасцю хутка з'яўляцца ў патрэбным месцы. Да таго ж воўк падаецца за больш зычлівага чалавеку, чым ягоныя родныя браты. Ён нат папярэджвае Дурня: «Глядзі ж ты не засні тут, бо як заснеш, так прыйдуць браты твае, прыйдуць і цябе заб'юць...» І калі здзяйсняецца прадбачанне, воўк прыстараўся «жывушчай крыві» і ажывіў чалавека.

Не менш дзіўныя ўчынкі робіць воўк у казцы «Шкляныя горы». Што і казаць, сам твор уяўляецца незвычайным нат сярод чарадзейных казак. Галоўны герой Іван Знайдзён хоча знайсці жонку, якая пакінула яго і толькі сказала: «Ці ўбачымся, ці не ўбачымся — у Шкляных гарах». Дапамагчы яму ўзяўся «лясны гаспадар», але ніхто не ведаў, дзе знаходзяцца тыя горы. І калі нарэшце дакліка́ліся кульгавага (ці не «крывога», як у казцы «Чавалай»?) ваўка, то той ведаў, дзе знаходзяцца Шкляныя горы, і «памеўся даставіць туды Івана Знайдзёна. І яшчэ воўк сказаў яму: «Вырві ж ты ў мяне праміж вушэй шэрсці. Калі я табе патрэбен буду, ты цяпельца высечы, мае шэрсці прыпячы — я к табе і буду!»

Дарэчы, не толькі воўк рабіў такое. У казцы «Іван Іванавіч купецкі сын» падобным чынам, з дапамогай вырванай «з персці трыжды дзевяць шэрсці» дапамагае герою конь.

Варта згадаць, што, як і шкуры, звярыная поўсць, паводле ўяўлення нашых прашчураў, мела нейкія магічныя, а таксама пэўныя лекавыя ўласцівасці. Дастаткова сказаць, што поўсць пэўных жывёл выкарыстоўваецца ў народнай цібецкай медыцыне.

Незвычайныя адносіны да ваўка, а дакладней ўсведамленне асаблівасцей гэтага звера, праявіліся і ў казцы «Чавалай». «Адзін гаспадар», які «быў вялікі чараўнік — змей», усё ж для новага свайго пераўвасаблення абраў постаць ваўка — «зрабіўся крывым ваўком».

Мяркую, што яшчэ будуць арыгінальныя даследаванні пра сувязь паняцця «крывы» і «воўк» і даследнікі зробяць выснову пра немагчымае ці верагоднае радство «крывога ваўка» з паняццем «крывічы». Але ўжо ёсць меркаванне, што крывічамі называлі не племя, а толькі пэўнае саслоўе, а менавіта жрацоў, а значыць, тых, хто валодаў рознымі таемнымі ведамі.

(Працяг будзе.)

РУПЛІЎЦЫ

# НЕВЫЧЭРПНАЕ БАГАЦЦЕ НАРОДНАЙ МОВЫ

***Шаноўныя чытачы! Прапануем вам артыкул М.Крыўко пра творчасць Георгія Юрчанкі, аўтара шматлікіх дыялектных слоўнікаў Мсціслаўшчыны.***

***Падзвіжніцкую дзейнасць Георгія Юрчанкі, збіральніка народнай лексікі і фразеалогіі, высока ацанілі мовазнаўцы. А прафесар Санкт-Пецярбургскага аддзялення Інстытута рускай мовы Расійскай АН Саракалетаў Ф.П. і вядучы навуковы супрацоўнік гэтага аддзялення, доктар філалагічных навук Кузняцова В.Д. параўноўваюць яго са славутым А.В.Падвысоцкім, які, не будучы прафесійным мовазнаўцам, сабраў велізарнейшы лексічны матэрыял паўночнарускіх гаворак і склаў вялікі «Словарь областного архангельского наречия» (а гэтую працу ставяць упоруч з слоўнікам У.І.Даля).***

Калі гаворка заходзіць пра народную мову, пра яе лексіка-фразеалагічныя запасы, нярэдка чуеш, і як ні дзіўна, падчас і з вуснаў мовазнаўцаў: ну што там народная мова, гавораць, як гавораць, у нас гавораць, як і ўсюды, нічога асаблівага, усюды мясцовая мова прыкладна аднолькавая, і што там асаблівага ды адметнага можна выявіць і запісаць. Але гэта толькі на першы погляд. Мова любой гаворкі Беларусі невычэрпная. Кажу гэта з упэўненасцю, бо ўжо на працягу трох дзесяцігоддзяў збіраю і сістэматызую лексіку і фразеалогію паўночна-заходняй Віцебшчыны, дзісенскага краю. За адзначаны час накапіўся агромністы лексічны матэрыял. Картатэка цяпер налічвае 400 тысяч картак-слоў, фразеалагізмаў, народных выслоўяў, прыказак, прымавак, іншых згусткаў народнай мудрасці. I ўсё роўна з кожнай новай паездкі на Дзісеншчыну прывожу новыя і новыя моўныя скарбы. Пра сказанае сведчаць і лексіка-фразеалагічныя зборы дыялектолага Георгія Юрчанкі, які на працягу 50—90-х гадоў нашага стагоддзя выявіў, запісаў і сістэматызаваў вялізныя моўныя багацці гаворак на тэрыторыі Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці, на мяжы непасрэдных кантактаў сучасных беларускіх і рускіх гаворак.

Першай кнігай Г.Юрчанкі, прысвечанай народным моўным багаццям Мсціслаўшчыны, быў ягоны «Дыялектны слоўнік» (1966), у якім пададзена і растлумачана 2170 слоў, не лічачы варыянтаў і формаў. У 1969 годзе ён выдаў сінанімічны слоўнік па дыялектнай лексіцы з гаворак Мсціслаўскага раёна, які назваў «Народная сінаніміка». У ім распрацавана 440 сінанімічных радоў. Гэта быў першы слоўнік па сінаніміцы дыялектнай лексікі.

На рахунку Г.Юрчанкі і такое выданне, як трохтомны слоўнік пад назвай «Народнае вытворнае слова» (1981, 1983, 1985). У ім пададзена і растлумачана 16 200 лексічных адзінак і шырока паказана форма- і словаўтваральная сістэма лексікі.

У 1988 годзе Г.Юрчанкам апублікаваны слоўнік з назвай «Сучаснае народнае слова». У яго ўключана каля 4000 слоў. Лексіка ў гэтым выданні падаецца гнездавым спосабам.

Вядомы Г.Юрчанка і як аўтар трохтомнага фразеалагічнага слоўніка, у якім пададзена народная фразеалогія Мсціслаўшчыны. Кожны том мае сваю адметную назву: першы том — «I коціцца і валіцца» (1972), другі — «I сячэ і паліць» (1974), трэці — «Слова за слова» (1977). Назвамі паслужылі народныя ўстойлівыя выразы. У слоўніку аб'ядвана 16 150 фразеалагізмаў і іх варыянтаў. У канцы кожнай з трох кніг даведніка падаецца слоўнік народных слоў, што не ўвайшлі ў ранейшыя публікацыі аўтара, а таксама тыя, што сустракаюцца ў ілюстрацыях да фразеалагізмаў у апошнім слоўніку.

Акрамя названых слоўнікаў, Г.Юрчанка на працягу 60—80-х гадоў апублікаваў шмат артыкулаў і слоўных матэрыялаў па дыялектнай лексіцы, тапаніміцы, фальклоры.

Здавалася, чаго яшчэ можна чакаць пасля апублікавання такой значнай колькасці слоўнікаў і артыкулаў, створаных на базе моўнага матэрыялу адной гаворкі. Аж не. У канцы 1993 года выйшаў з друку першы том новага дыялектнага слоўніка Г.Юрчанкі пад назвай «Сучасная народная лексіка. З гаворкі Мсціслаўшчыны», дзе змешчаны і растлумачаны словы на літары А—Н. У навуковы зварот уводзяцца 4 тысячы новых слоў.

У новым слоўніку лексіка падаецца алфавітна-гнездавым спосабам, камбінавана. Так, у адным гняздзе прыводзяцца трывальныя пары дзеясловаў, утвораныя ад іх зваротныя формы абодвух трыванняў і дзеепрыметнікі, напр.: *абдзяўбуліваць — абдзяўбулівацца — абдзяўбуліць — абдзяўбуліцца — абдзяўбуліваный — абдзяўбуленый; абчмыхываць — абчмыхкываць — абчмыхывацца — абчмыхкывацца — абчмыхаць — абчмыхкаць — абчмыхацца — абчмыхкацца — абчмыханый — абчмыхканый* і г.д. У адным гняздзе падаюцца назоўнікі і ўтвораныя ад іх памяншальныя або павелічальныя формы, напр.: *кусавал — кусавалік — кусавальчык — кусманок — кусманішча*, прыметнікі і займеннікі са сваімі вытворнымі: *нудный — нудненькій — нудненечкій — нуднёсенькій — нуднёсенечкій, ніякей — ніякій — ніякенькій — ніякенечкій* і г.д. У пары з асабовымі назоўнікамі мужчынскага роду падаюцца назоўнікі жаночага роду: *аббіваннік — аббіванніца, нецяцюй — нецяцюйка* і інш. Асобнымі гнёздамі прыводзяцца таксама адназначныя словы і фанетычныя і словаўтваральныя варыянты: *глыжжа — глыззе; клібіць — клюбіць — клябіць; надруга — надруганне — надругацельства; злыднота — злыдота; курчыжка — курчыжына* і г.д.

Такое кампактнае размяшчэнне матэрыялу дазволіла сэканоміць месца для падачы большай колькасці слоў і вялікай колькасці ілюстрацый, а таксама паказаць словаўтваральнае багацце гаворкі.

Словы ў гняздзе тлумачацца шляхам падбору літаратурных адпаведнікаў ці апісальна.

Абсалютная большасць слоў, пададзеных у апошнім слоўніку Г.Юрчанкі, — вузкадыялектныя словы. У адзінкавых выпадках (*асёл, бык, вымя, лебяда*) у якасці рэестравай пададзена літаратурная форма, паколькі ад яе ўзнікла некалькі дыялектных утварэнняў. Прыводзіцца ў апошнім слоўніку некалькі слоў, зарэгістраваных у ранейшых выпусках Юрчанкі. Гэта зроблена тады, калі ў словах выяўлены дадаткова новыя значэнні.

Пры першым знаёмстве са слоўнікам Г.Юрчанкі кідаецца ў вочы вялікая колькасць асабовых назоўнікаў мужчынскага роду на *-аннік (-яннік), -эннік (-еннік)* і адпаведных назоўнікаў жаночага роду на *-анніца (-янніца), -энніца (-енніца)*. Такіх пар, па падліках рэцэнзента, у слоўніку каля 100. Сярод іх, напрыклад, такія: *аббіваннік — аббіванніца, ачумачываннік — ачумачыванніца, гандлячаннік — гандлячанніца, загуннік — загунніца, масцярэннік — масцярэнніца, напаведжываннік — напаведжыванніца* і г.д.

Вялікая колькасць у слоўніку экспрэсіўнай лексікі: *абраголь* — ашуканец, *атла́ндзерка* — гультайка, *атла́нка* — здаровая гультаяватая жанчына, *атра́шышча* — нядбайная, неахайная асоба, *барбасня́* — злодзеі, нягоднікі, *бры́кса* — гуллівая жывёліна, *ва́рвус* — распуснік, *дру́я* — распаўнелая асоба, *здараўчу́к* — фізічна здаровы чалавек, *здыха́ч* — хілы, слабы чалавек, *лабу́з* — гультай, *немудру́ха* — непрыглядная, несамавітая асоба, жывёліна, *нецяцю́й* — няўклюда, недаразвіты чалавек і г.д.

Многа ў апошнім слоўніку Г.Юрчанкі арыгінальных слоў, якія можна падзяліць на тры групы: 1) увогуле арыгінальныя лексічна словы: *на́псінь* — набрынялая вадой драўніна, *на́тап* — месіва, дрыгва, *наўхваток* — спехам, *не́ўгалаў* — вельмі моцна (крычаць), *неўкавы́ра* і *неўкавы́рка* — капрызная асоба, *нехарцякля́піста* — нязграбна, *нур* — знясіленне; 2) арыгінальныя сваім ужываннем словы: *аблю́бак* — пакінуты каханак, *а́пса* — задышка, астма, *бэхан* — удар кулаком, *выста́ва* — паказ жанчынамі голага азадка пры сварцы, *гавор* — размова, *заме́жка* — паездка за мяжу, *замле́ць* — моцна захацець, *запы́шка* — задышка, *зату́лле* — прыпынак, *збыт* — спакой, *квіл* — бязладны крык, лямант, *набоем* — настойліва, напрасіўшыся і мн. інш; 3) арыгінальныя сваім утварэннем словы: *акура́тства* — акуратнасць, *але́шыніна* — алешына, *бульбовішча* — бульбянішча, *веразу́б* — чалавек з рэдкімі зубамі, *вобаддзе* — абады, *даста́вы* мн. — дастаўка, *картэўнік* — аматар гульні ў карты, *кацюга* — вялізны кот, *лёцьма* — лётам, *ме́тна* — прыкметна, заметна, *нямогля* — бездапаможная асоба і г.д.

Багата прадстаўлены ў слоўніку словаўтваральныя варыянты: *апусціцель — апусціцельнік — апушчэннік, бузгор — бузгорына — бузгорчына, бушавалка — бушавацель — бушаваннік — бушавальнік — бушавацельнік, маўчуха — маўчуння, махляранне — махлярнічанне — махлярстваванне, аддзяндзюліць — аддзяндзюрыць — аддзюндзюліць — аддзюндзюрыць — аддзюндзіць — аддзяндзюліцца — аддзяндзюрыцца — аддзюндзюліцца — аддзюндзюрыцца — аддзюндзіцца, барахлець — баразліць — барахоліць — барахольнічаць — барахлецца — барахліцца — барахоліцца — барахольнічацца, дакрымзазоліць — дакрымзазуліць — дакрымзазольнічаць — дакрымзазульнічаць — дакрымзазоліцца — дакрымзазуліцца — дакрымзазольнічацца — дакрымзазульнічацца* і г.д.

У адрозненне ад папярэдніх выданняў апошні слоўнік шырока раскрывае метафарычны бок мясцовай лексікі, падае пераносныя значэнні слоў. Тут слова выкарыстоўваецца не па прамым сваім прызначэнні, а зыходзячы з пэўнай аналогіі, падабенства да таго, што яно звычайна абазначае. У такіх выпадках прамое значэнне не падаецца, а толькі пераноснае з адпаведнымі паметамі (*перан.* — пераноснае, *метафар.* — метафарычнае). Такіх слоў у слоўніку вялікая колькасць. Назавём некаторыя з іх: *абразовываць* — правучаць, *абстругываць* — прабіраць, ушчуваць, *абтрасацца* — абжывацца, *атмалаціць* — моцна пабіць, *барахлець* — балбатаць, *вецер* — легкадумны чалавек, *выездзіць* — моцна ўдарыць, пабіць, *выкатываць* — спаганяць падаткі, *выплываць* — з'яўляцца, прарастаць (пра траву), *высцілка* — праборка, *даваліцца* — дабрацца з вялікімі намаганнямі, *дамасліваць* — 1) даводзіць да бляску, 2) абходжваць, *даспявацца* — дамаўляючыся, дайсці да пэўных вынікаў, *дзёрзкій* — рэзкі, едкі (*Ух, якей дзёрзкій хрен*), *жацца, жмацца* — сквапнічаць, *загуляць* — пачаць бурна праяўляць сябе ў росце (*Трава пы грідах загуляла*), *заірзаць* — выразіць нецярплівае жаданне, *залятаць* — заступацца, *зарэзаць* — замучыць (пра боль), *зысыпшчык* — здраднік, *зачханый* — хваравіты, прастуджаны, *звезці* — ударыць, *зубрыць* — накіроўваць, настройваць, *істрыцца* — намервацца, *калаціць* — гаварыць, *капылле* — ногі, *кручаный* — распусны, *крэпка* — багата, у поўным дастатку, *мірскій* — выдатны, *мурзацца* — псавацца (пра надвор'е), *накукавацца* — горка ўголас наплакацца і г.д.

Паколькі ў слоўніку, акрамя нейтральнай лексікі, значнае, калі не пераважнае, месца займаюць словы, што маюць розную стылістычную афарбоўку, экспрэсію, памяншальнасць, павелічальнасць, ласкальнасць і пад., то яны забяспечаны неабходнымі стылістычнымі паметамі.

Матэрыялы слоўніка могуць быць паспяхова скарыстаны аматарамі слова — пісьменнікамі, журналістамі, а таксама выкладчыкамі і студэнтамі ВНУ і ў першую чаргу спецыялістамі-мовазнаўцамі, якія з нецярплівасцю чакаюць выхаду наступнага тома гэтага слоўніка. Слоўныя матэрыялы гэтай працы будуць уведзены ў навуковы ўжытак дыялектолагамі, лексіколагамі і спецыялістамі іншых напрамкаў мовазнаўства. Сам фактычны матэрыял гэтага слоўніка, як і ўсіх астатніх слоўнікаў Г.Юрчанкі, з'явіцца вялікай састаўной часткай будучага зводнага акадэмічнага Слоўніка беларускіх народных гаворак, які будзе рыхтавацца ў перспектыве.

Георгій Фёдаравіч Юрчанка ўражвае спецыялістаў-мовазнаўцаў і прадстаўнікоў іншых галін навукі і культуры тым, што ён, прафесійна не займаючыся мовазнаўствам, адзін сабраў і сістэматызаваў велізарнейшы лексіка-фразеалагічны матэрыял і выдаў дзесяць кніг дыялектных слоўнікаў, чаго не ўдаецца зрабіць за ўсё навуковае жыццё большасці прафесіяналаў-мовазнаўцаў. А мовазнаўства ж для Г.Юрчанкі толькі адна з граней яго творчай дзейнасці.

Г.Юрчанка — вядомы журналіст і публіцыст, член Саюза журна-лістаў з 1963 года. Вяршыняй яго журналісцкай і публіцыстычнай дзейнасці з'явілася кніга «На мсціслаўскай зямлі ўзгадаваны. Нарыс жыцця і навуковай дзейнасці П.П.Кабекі», якая выйшла ў выдавецтве «Навука і тэхніка» ў 1986 годзе і прысвечана нашаму земляку, выдатнаму фізіку члену-карэспандэнту АН СССР Паўлу Кабеку. У дапра-цаваным выглядзе кніга выйшла яшчэ раз у 1991 годзе.

Вядомы Г.Юрчанка філалагічнай і пісьменніцкай грамадскасці і як літаратурны крытык і пісьменнік-парадыст. Ім у перыядычным друку апублікавана шмат артыкулаў і рэцэнзій, у якіх даецца грунтоўны аналіз літаратурных твораў многіх беларускіх пісьменнікаў. Ён першы адгукнуўся на з'яўленне аповесці В.Быкава «Жураўліны крык» рэцэнзіяй у «ЛіМе». Юрчанка — укладальнік кнігі паэзіі Сяргея Фаміна «Дымнае жыта» (1991), які ў самым пачатку 1934 года быў бязвінна арыштаваны сталінскімі ўладамі і расстраляны ў канцы 1941 года. Г.Юрчанка напісаў таксама прадмову да гэтай кнігі і зрабіў каментарыі.

Георгій Юрчанка — аўтар пяці кніг літаратурных пародый і эпіграм: «Распрэжаны Пегас» (1965), «Немеладычныя мелодыі» (1974), «Парнаскія ўхабы» (1979), «У натхнёнай паграбеньцы» (1983), «Негабляваная пегасня» (1989). Ён член Саюза пісьменнікаў з 1975 года.

Вядомы Г.Юрчанка і як збіральнік фальклору.

Падсумоўваючы творчую дзейнасць Юрчанкі, неабходна сказаць, што ён падрыхтаваў і апублікаваў больш як 500 работ. Гэта, як было адзначана вышэй, пародыі і эпіграмы, вершы і замалёўкі, публіцыстычныя і навуковыя артыкулы, літаратурныя агляды і рэцэнзіі, слоўнікі і фальклорныя матэрыялы і г.д.

I нарэшце, нельга не спыніцца на выдавецкай дзейнасці Г.Юрчанкі. Каля 30 гадоў ён прапрацаваў загадчыкам рэдакцыі літаратуры і мастацтва выдавецтва «Навука і тэхніка». Праз яго рукі і вочы прайшло і ўбачыла свет звыш 600 назваў кніг, брашур, штогоднікаў. Асноўныя з іх — 30-томнае выданне беларускага фальклору, аб'яднанае назвай «Беларуская народная творчасць», многія іншыя працы па беларускім фальклоры, этнаграфіі, мастацтве, літаратуразнаўстве, мовазнаўстве.

Так, зайздросны, унікальны і багаты талент у Георгія Юрчанкі. Гэта рэдкі выпадак у гісторыі нашай культуры, калі ў адной асобе сцэментаваны і творча ўзаемадзейнічаюць розныя грані таленту чалавека, які служыць і будзе служыць добрым прыкладам для многіх і многіх маладых дзеячаў культуры, навукі, выдавецкай справы. А зробленае Георгіем Фёдаравічам на ніве беларускага мовазнаўства, літаратуры, журналістыкі, публіцыстыкі, выдавецкай дзейнасці заслугоўвае высокай дзяржаўнай ацэнкі і ўзнагароды.

**Мікалай КРЫЎКО.**

### СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**

**5. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.**
**8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**9. Праца народа моц і свабоду —**
**10. Годнасць гартуе з году ў год...**
**11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,**
**12. Люд Беларусі — слаўны народ.**

**13. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**18. Рэкі павольныя, светлыя тут.**
**19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...**
**20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!**

**21. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**22. Бог захавае Белую Русь.**
**23. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**Адрэдакцыі.** Паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым. Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагу і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Дапрацоўка тэксту У.Жыгалкі па просьбе чытачоў працягнута да канца года. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

* * *

*Паважаная рэдакцыя «Нашага слова». У вашым 38-м нумары ад 21.09.94 г. надрукаваны дасланыя мною ўдакладненні да тэксту, прапанаванага для стварэння Гімна Беларусі, але маё прозвішча напісана недакладна. Трэба пісаць Мікола Хамчук. Можа я сам вінаваты, але непрыемна будзе, калі хто-небудзь будзе спасылацца на мае радкі і ў далейшым скажаць маё прозвішча.*

*З павагай*

***Мікола ХАМЧУК.***
*г.Менск.*

* * *

*Паважаныя сябры, вельмі прыемна бачыць на старонках «Нашага слова» варыянты Гімна Беларусі і крытычныя заўвагі па тэксту верша У.Жыгалкі. Не змог і я застацца збоку.*

*Лічу, што словы «Мы, беларусы» будуць нагадваць былы гімн БССР. Не вельмі рыфмуюцца радкі «1) ... вольныя людзі!*

3) ...Сцяг Беларусі»,

*У вершы Міколы Валошчыка, акрамя заўваг, прыведзеных вышэй, зусім не рыфмуюцца словы:*

«6). ... ўгару
8) ... Беларусь» і
«19) ... зара
20) ... край».

*У вершы Восіпа Рагонькі не рыфмуюцца словы:*

«18) ... зару
20) ... Беларусь».

*А словы «Слава табе, беларускі народ» запазычаны з былога Гімна БССР.*

*Прапаную на суд людскі свой варыянт Гімна:*

Свабодныя людзі, Радзіму падымем,
Адзіны да шчасця выберам шлях.
Над гербам «Пагоні» высока ўздымем
Наш бела-чырвона-белы сцяг!

Народ гераічны, народ працавіты
Дружна з суседзямі хоча ён жыць.
Славай вялікіх сыноў знакамітых
Будзе заўжды даражыць!

Мы слаўнай вялікай дзяржавы нашчадкі,
У якой гаспадарыў літвін-беларус,
Самыя лепшыя ў свеце парадкі
Заклала ў законы тады Беларусь.

Чорных мінулі гады ліхалецціяў.
З вуголля, як фенікс, падняўся народ.
Жадаем краіне сваёй даўгалецця!
Стаць вольнай і моцнай настаў ёй чарод.

Свабодныя людзі, Радзіму падымем,
Адзіны да шчасця выберам шлях.
Над гербам «Пагоні» высока ўздымем
Наш бела-чырвона-белы сцяг!

Свой герб «Пагоню» аднавіла
І бел-чырвона-белы сцяг.
Хай у краіне нашай мілай
Усё ліхое церпіць крах!

І кожны дзень пры ўсходзе сонца
Я Богу за цябе малюсь,
Каб лёс шчаслівым быў бясконца,
Жыві, святая Беларусь!

***Віталь МАКАРЧЫК.***
*г.Наваградак.*

* * *

*Прапаную:*
*Радок 2: Праведным будзе заўсёды наш шлях.*
*А ўвогуле:*
*Упершыню чытаю такі ўдалы тэкст для Гімна, як «Жыве Беларусь!»*

***Анатоль БОБРЫКАЎ.***

# НІЧОГА ШУКАЦЬ НЕ ТРЭБА

*Паважаная рэдакцыя! Не за тую справу вы ўзяліся, за якую патрэбна. Ствараць Гімн талакою... Гімн дзяржавы! А вы ўяўляеце, як яно ўсё будзе выглядаць? Так, канешне, стылёва, граматычна радкі і сапраўды могуць быць бездакорнымі (усё ж столькі галоў працавала), але ж ці будзе такі твор «узнёслым», хвалюючым? Ці чулі вы, каб вершы хто пісаў грамадою? У прынцыпе магчыма, але ж, прабачце, гэта ўжо не верш, а проста набор рыфмаваных радкоў. Кіньце вы дурную задуму і займіцеся чым больш арыгінальным.*

*Як на маю думку, то ўвогуле не трэба шукаць нейкія словы для Гімна. Даволі будзе адной мелодыі, але арыгінальнай. Як мне здаецца, найлепш на гэта можа прэтэндаваць «Развітанне з Радзімаю» Агінскага. А там, глядзіш — і словы хто падбярэ. Будзе клас!*

***Аляксандр МАЗУР.***
*в.Дуброва, Светлагоршчына.*

**Ад рэдакцыі.** Дзякуем, спадар Аляксандр, за рашучую параду, але ж мусім заўважыць, што за справу ўзяліся не мы, а самі чытачы. Калі будзе на тое іхняя воля, мы ёй падпарадкуемся. Але пакуль прапановы паступаюць, мы імкнёмся знаёміць з імі грамадскасць. Урэшце трэба ж нейкім чынам дазнацца, чаго хочам, у якім накірунку імкнём як грамада.

Ну, а не шукаць словы да Гімна, задаволіцца мелодыяй, няхай сабе і «арыгінальнай»... Дык ці не будзе гэта працягам таго, да чаго беларусаў настойліва прывучалі стагоддзямі — чакаць, пакуль словы яму дадуць улады?

Што да немагчымасці стварэння арыгінальнага тэксту талакою, то перш-наперш заўважым: Гімн крыху адрозніваецца ад звычайнага верша — у ім не павінна быць месца шматзначнасці слова, падтэксту і т.п., Гімн нечым у гэтым сэнсе нагадвае тэкст закона. А ўвогуле — як тады быць з народнай песняй? Яе ж якраз і стваралі людзі талакою, раз-пораз шліфуючы тэкст, асобныя выразы, але няўхільна захоўваючы асноўную думку і сюжэт. Так, песню не можа стварыць натоўп, людзі розных памкненняў, а вось народ, які адчувае сваю еднасць дзеля агульнага выжывання, — гэта робіць!

Пра «Развітанне з Радзімай» Агінскага. Ужо сама назва твора сведчыць, што Гімнам ён можа быць толькі для тых, хто пакідае родны кут да яшчэ і не па ўласнай волі — для палітычных эмігрантаў. А мы ж пакуль спадзяёмся калі-небудзь наладзіць чалавеку прыстойнае жыццё ў нашай Беларусі.

# ЕЎРАПЕЙСКІ НЯСВІЖ

**Два дні, 21 і 22 верасня 1994 г., у Нясвіжы праходзіў першы Міжнародны навуковы сімпозіум «Нясвіж як агульнаеўрапейская гісторыка-культурная каштоўнасць», наладжаны Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Міжнародным фондам «Нясвіж», Нацыянальным гісторыка-культурным запаведнікам «Нясвіж», Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, Беларускім інстытутам праблем культуры, Інстытутам гісторыі Акадэміі навук Беларусі пры пэўнай падтрымцы нясвіжскіх улад.**

У сімпозіуме ўдзельнічалі вучоныя з Беларусі, Вялікабрытаніі і Польшчы, дыпламаты з Італіі, Польшчы і Расіі. Ганаровымі гасцямі пленарных пасяджэнняў былі князь Антон Радзівіл з жонкай княгіняй Ружай-Марыяй з Чартарыйскіх (Лондан), вядомы на Беларусі мастацтвазнаўца граф Андрэй Цеханавецкі, князь Мсціслаўскі і Заслаўскі (Лондан), намеснік міністра культуры і мастацтва Рэспублікі Польшча прафесар Тадэвуш Поляк, прафесары з Польшчы князь Павел Чартарыйскі, Аляксандр Гейштар, Андрэй Міхалоўскі, Ежы Кавальчык, доктар Тадэвуш Бернатовіч.

На двух пленарных пасяджэннях было заслухана і абмеркавана каля 25 навуковых дакладаў і паведамленняў. Разглядаліся тэмы: «Нясвіж як еўрапейскі цэнтр культуры» (Андрэй Цеханавецкі), «Рэлігійнае жыццё ў Нясвіжы ў XVI—XVII стст.» (Анатоль Грыцкевіч), «Рухомыя межы і суіснаванне культур у Цэнтральна-Усходняй Еўропе» (Аляксандр Гейштар), «Гістарычныя дакументы і крыніцы XV—XVII стст. пра Радзівілаў» (Георгі Галенчанка), «Нясвіжскія паркі як еўрапейская з'ява» (Андрэй Міхалоўскі), высвятляліся праблемы: драматычная гісторыя замкавых каштоўнасцей Радзівілаў (Мая Яніцкая), факт рабавання скарбніцы князёў Радзівілаў у 1812 годзе расійскім войскам (Сяргей Рыбчонак), лёс трафеяў 1812 г. (Мікола Багадзяж і Ірына Масляніцына) і нясвіжскіх гармат (Міхаіл Гурын).

Вялі пленарныя і секцыйныя пасяджэнні вядомыя навукоўцы Адам Мальдзіс і Уладзімір Гілеп, Міхаіл Касцюк і Аляксандр Гейштар, Анатоль Грыцкевіч і Ежы Кавальчык, Павел Чартарыйскі і Андрэй Цеханавецкі, Зміцер Бубноўскі і Тадэвуш Поляк.

У секцыі «Гісторыя Нясвіжа. Радзівілы і Нясвіж» звернута ўвага на археалагічныя старажытнасці Нясвіжа і яго наваколля (Леанід Побаль), на родавы герб Радзівілаў і яго выкарыстанне (Леанід Акаловіч), на дзейнасць Гераніма Радзівіла як фундатара тэатраў і цэркваў (Зміцер Яцкевіч), на адукацыю ў Радзівілаўскім Нясвіжы (Людміла Хрышчановіч), на факт фундацыі М.К.Радзівілам касцёла і калегіі езуітаў 1584 г. (Міхаіл Спірыдонаў). Пазіцыю апошняга выступоўца горача крытыкавала нясвіжская пісьменніца-краязнаўца Клаўдзія Шышыгіна-Патоцкая.

На секцыі «Архітэктура і мастацтва Нясвіжа» з цікавасцю былі выслуханы даклады і паведамленні пра партрэтную галерэю Радзівілаў (Віктар Шматаў), кампазіцыйна-стылёвыя асаблівасці нясвіжскіх паркаў (Анатоль Федарук), Нясвіж і літаратурнае жыццё Беларусі (Тэрэза Голуб), Нясвіж як цэнтр музычнай культуры (Вольга Дадзіёмава), архітэктурныя чарцяжы XVI ст. з Нясвіжа як з'яву еўрапейскай культуры (Тамара Габрусь), супрацоўніцтва архітэктара Бернардоні і фундатара Радзівіла (Тадэвуш Бернатовіч), нясвіжскі «Вучнёўскі сшытак» (Валянцін Калнін), Нясвіжскі касцёл бенедыктынак (Аляксандр Ярашэвіч), кафлю XVI—XVII стст. з Нясвіжа і Друі (Вольга Зайцава).

**На другі дзень** адбылося сумеснае пасяджэнне Міжнароднага сімпозіума і Камісіі экспертаў па справах культурнай спадчыны пры ўрадах Беларусі. За круглым сталом «Будучыня Нясвіжа» абмеркаваны праект канцэпцыі Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка «Нясвіж» і прынята заключнае падсумаванне-заява.

У час работы гэтага першага Міжнароднага сімпозіума была адкрыта часовая выстава, прысвечаная Радзівілам, Нясвіжу і культуры Нясвіжчыны ў адрамантаваным будынку ці не пачатку XX стагоддзя. Ды вельмі дарэчы і добра было б, каб гэтая выстава размясцілася ў залах Радзівілаўскага палаца, каб сродкі пайшлі не на аднаўленне безаблічнага будынка далёкага ад замка, а на палацавыя пакоі, каб з'явіліся на сваіх месцах партрэты з вядомай Радзівілаўскай галерэі, што захоўваюцца ў запасніках Нацыянальнага мастацкага музея ў Менску і схаваны ад вока наведвальнікаў. Цяпер як здзек з беларусаў вісяць у Нясвіжскім замку партрэты не Юрыя Радзівіла ці Канстанціна Астрожскага — абаронцаў Беларусі, а чужаземцаў Кутузава ды іншых?! А гэта ж Кутузаў у 1812 годзе патураў сваім военачальнікам і салдатам рабаваць скарбы нясвіжскіх радзівілаўскіх збораў, нажытых стараннямі гэтага беларускага роду, працай беларускіх сялян і рамеснікаў. Гэта пасля нашэсця маскоўскага войска ў Нясвіжскім замку засталіся голыя сцены! Дагэтуль з Масквы, Пецярбурга, Смаленска і іншых гарадоў Расіі не вернута назад хоць бы частка з нарабаванага. Так што пра завяршэнне рэканструкцыі унікальнага паркава-замкавага комплексу ў Нясвіжы, пра якое паспяшаўся паведаміць Раман Кабяк з Белінфарма, яшчэ вельмі і вельмі няблізка. Сёння пакладзены толькі пачатак аднаўлення. Патрэбны сумесныя намаганні зацікаўленых бакоў у Беларусі, Польшчы і Расіі ў адраджэнні Нясвіжа як агульнаеўрапейскага гісторыка-культурнага цэнтра — некаранаванай сталіцы Беларусі.

Канцэрт майстроў мастацтва Беларусі, які адбыўся напрыканцы сімпозіума ў раённым Доме культуры, вярнуў Нясвіжу музыку Мацея Радзівіла (1751—1821) — у выкананні ансамбля старадаўняе музыкі «Кантабеле», пазнаёміў жыхароў горада з творамі кампазітараў Міхала-Клеафаса і Міхала-Казіміра Агінскіх, Андрэя Тадэвуша Касцюшкі і Яна-Давіда Голанда (XVIII ст.). Гэтыя мелодыі данеслі Ігар Алоўнікаў і Ганна Каранеўская, а ўвасобілі ў спевах Віктар Скарабагатаў, Таццяна Цыбульская і Рыгор Палішчук.

Хочацца сказаць вялікі дзякуй усім арганізатарам Міжнароднага навуковага сімпозіума ў Нясвіжы, а таксама Зміцеру Бубноўскаму, навуковаму кіраўніку і аўтару праекта рэстаўрацыі Мірскага замка, за тое, што быў наладжаны заезд у Мір, дзе шаноўны спадар Зміцер паказаў, як трэба рэстаўраваць славутыя помнікі беларускай архітэктуры па частках і адразу ў іх выстаўляць знойдзенае, адноўленае для агляду. Так хутчэй пачаў аднаўляцца па залах і пакоях Нясвіжскі замак, каб стаць сапраўдным Міжнародным музейна-асветным, навуковым, культурным і турыстычным асяродкам на Беларусі, маленькім беларускім Парыжам — помнікам нулявога класа па еўрапейскай класіфікацыі ЮНЕСКА.

Матэрыялы першага Міжнароднага навуковага сімпозіума «Нясвіж як агульнаеўрапейская гісторыка-культурная каштоўнасць» будуць надрукаваны для шырокага азнаямлення і выкарыстання грамадскасцю ды ўзнаўленцамі Нясвіжскага замка.

**Леанід АКАЛОВІЧ,**
**ст.выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, намеснік старшыні і галоўны сакратар Згуртавання Беларускае Шляхты.**

Беларускі народны каляндар

# «ЛІСТАПАД — ВЕРАСНЁЎСКІ ЎНУК, КАСТРЫЧНІКАЎ СЫН, ЗІМЕ БАЦЮХНА РОДНЫ»

Пара халодная, невясёлая. Не чуваць галасоў птушак і шапацення лістоты. Сцелецца туман, імжыць дождж, ідзе мокры снег. На фоне злавесных хмар часам з'яўляецца вясёлка («Калі ў лістападзе грыміць — ратай вясну сніць»). Даўней у гэты час земляробы малацілі цапамі, пралі кудзелю і гулялі вяселлі.

Лістапад — скарбонка ўсялякіх прыказак, прыкмет і назіранняў, звязаных з працай людзей і прыродай: «Пакуль цэп — датуль і хлеб», «Прыйшоў лістапад — кармі скаціну, брат», «У лістападзе кладзі капусту ў кадзі», «Лістапад на рабой кабыле ездзіць: то снег, то слата» і інш.

*Нядзеля 27 лістапада: Угодкі Слуцкага паўстання 1920 г.*

*1* (аўторак). *Кат. Усіх святых.* Памінальны дзень у беларусаў-каталікоў («Па Усіх святых холад для ўсіх»).

*2* (серада). *Кат. Задушны дзень у Рымскім абрадзе.* З мінулага года на Беларусі афіцыйнае свята *Дзень памяці.*

*Ун. Дзень Кузьмы і Дзямяна, бескарыслівых лекараў.*

Восеньскія дзяды, або Асяніны на Беларусі адзначаюць некалькі дзён. Уніяты памінаюць продкаў у першую суботу пасля Змітра (сёлета яна выпала на 29 кастрычніка), рыма-каталікі — 1 і 2 лістапада, праваслаўныя — у пятніцу і суботу перад Змітрам.

*4* (пятніца). *Прав. Дзень Казанскай іконы Божае Маці (Казанская).* Лічылася, што на прысвятак нельга выбірацца ў далёкую дарогу. *Прыкметы:* «Хто на Казанскую жаніхаецца, той не пакаецца», «На Казанскую дождж — да хуткай зімы».

*5* (субота). *Прав. Змітраўская памінальная (бацькоўская) субота; Змітраўскія Дзяды.* Спачатку была днём памінання праваслаўных вояроў, якія загінулі ў 1380 г. на Куліковым полі, а затым стала днём памінання ўсіх памерлых.

*8* (аўторак). *Прав. Зміцер, Змітрок.* Паводле царкоўнага календара — *Дзень велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага.* Быў сынам рымскага вяльможы. Пакараны смерцю царом Максіміьянам за тое, што прапаведаваў хрысціянства. Лічыцца нябесным заступнікам славянскіх вояроў. На Змітра не пралі, не ткалі, не вышывалі і на дварэ нічога не рабілі. Дзень звязваўся са спадзяваннямі выйсці замуж або ажаніцца («Святы Зміцер — ён на ўсіх хіцер: салады салодзіць, піва робіць, сыноў жэніць, дачок выдаець...»). Прыказкі і прыкметы: «Змітраў дзень — зіма лезе на пляцень», «Зміцер зямлю выцер, на груды пабіў, каб ніхто не хадзіў», «Змітрок па снегу — і Вялікдзень па снегу, Змітрок па голу — і Вялікдзень таксама». Лічылася, што цёплае надвор'е на Змітра — да цёплай зімы і вясны.

*9* (серада). *Кат. Тадор.* («На Тадора — поўная камора»).

*10* (чацвер). *Прав. Параскева Пятніца (Параска, Параскі асення, Параскева Пяценка і інш.).* Забаранялася прасці і ткаць.

*11* (пятніца). *Прав. Настуся (Настасей, Анастасій).* У гэты прысвятак даглядалі і стрыглі авечак.

*Кат. Марцін.* Прысвятак млынароў. Канец работы на вадзяных млынах («З Марцінавага дня пачынаецца зіма»).

*12* (субота). *Прав. Арцём, Артошка.* Пачатак прадзівальну. «Святы Артошка, напрадзі пачатак з лукошка, а клубок з карабок»).

*Ун. Дзень Язафата, арцыбіскупа Полацкага,* які прыняў пакутніцкую смерць у Віцебску ў 1623 годзе.

*13* (нядзеля). *Ун. Дзень Яна Залатавуснага, арцыбіскупа Канстанцінопальскага.*

14 (панядзелак). *Прав. Кузьма і Дзямян* (царкоўнае — *Казьма і Даміян Асійскія), Кузьмінкі.* Прысвятак кавалёў і шаўцоў. Лічылася, што святыя спрыялі земляробству, шлюбу і вяселлям. Прыгадваецца ў прыказках і валачобных песнях. Існуюць прыкметы, звязаныя з гэтым днём: снег на Кузьму і Дзямяна — да веснавой паводкі, лісты трымаюцца на дрэвах — да недароду.

*Ун. Піліпа-апостала.* Піліп — вучань Хрыста, быў ураджэнцам Галілеі. Прапаведаваў Слова Божае ў той жа Галілеі, Грэцыі, Сірыі і іншых мясцовасцях. У горадзе Іерапалі Фрыгійскім быў распяты на крыжы.

*16* (серада). *Ун. Мацвея, апостала і евангеліста.*

*18* (пятніца). *Прав. Міхайлаўскія Дзяды (Міхальскія, Міхайліны, Асеннія).* Адзначаюцца ў пятніцу перад Міхайлам.



*20* (нядзеля). *Ун. Перадсвяцце ўваходу ў святыню Багародзіцы.*

*21* (панядзелак). *Прав. Сабор Архістраціга Міхаіла і іншых нябесных сіл бесцялесных.* Паводле царкоўнага календара, *Міхайлаў дзень (Міхайла, Архайла, Міхайла Рахайла)* — апошняе свята перад Калядамі («Міхайло — усім святком запіхайло»). Забаранялася працаваць з сякерай, нажом і на кроснах, бо інакш чалавека быццам бы мог забіць пярун. Паводле народнага ўяўлення арханёл Міхаіл бараніў людзей ад грому. Прыкметы: лёд на лужынах і на сцёках вады — пчаляры будуць з мёдам; іней на Міхайлу — да снежнай зімы, туман — да адлігі, бездараж — да зімовага Міколы добрай дарогі не будзе.

Зазвычай на Міхайлаў дзень амаль заўсёды бывае адліга.

*Ун. Уваход у святыню Найсвяцейшай Багародзіцы.*

*22* (аўторак). *Прав. Матрона (Матруна).* Прыкмета: шэрань на дрэвах — да маразоў, туман — да адлігі.

*24* (чацвер) — *25* (пятніца). Уніяты і каталікі адзначаюць *Дзень Кацярыны.* Звязаныя з гэтай датай прыкметы гавораць пра надыход зімы («Прыйшла Кацярына — прыйдзе і пярына», «Кацярына забрала лета»). Дождж на Кацярыну абяцае адлігу да Грамніц.

*24* (чацвер). *Прав. Хвёдар Студзянец.* Так празваны народам святы Фёдар Студзіт (826 г.) у адпаведнасці з парой года, калі ён адзначаецца («Хвёдаравы вятры галоднымі ваўкамі скуголяць»).

*Піліпаўскія Дзяды.* Адзначаюцца ў пятніцу і суботу перад днём Піліпа. Сёлета прыпадаюць на 25 і 26 лістапада («Піліпаўскі дзед кажа: хоць трашчу, але не пушчу»).

*25* (пятніца). *Ун. Адданне свята Уваходу Багародзіцы.*

*26* (субота). *Прав. Іаан Залатавусны (Іван Міласцівы).* Адзначаецца ў гонар візантыйскага прапаведніка і царкоўнага дзеяча. Існаваў звычай у гэты дзень дзяліцца чым-небудзь з іншымі, пазычаць што-небудзь, зрабіць падарунак. Дождж на Івана Міласцівага абяцаў адлігу да Грамніц.

*27* (нядзеля). *Прав. Піліп (Піліпей).* Загавіны на пост перад Нараджэннем Хрыстовым *(Піліпаўскі пост, Піліпаўка).* Цягнуўся шэсць тыдняў — да 7 студзеня. Канец сезона вяселляў і пачатак Піліпаўскіх вячорак («Была восень, цяпер зіма, былі хлопцы, цяпер няма»). У гэты самы дзень ушаноўваецца і *Святы Юстыніян* — асабліва бяздзетнымі сем'ямі і тымі, у каго памерлі дзеці. Святы лічыцца збавіцелем ад бясплоднасці, апекуном дзяцей. Прыкметы: навісь на дрэвах — да ўраджайнага лета; хмарнае снежнае надвор'е — да мокрага траўня.

*Кат. Адвент.* Пачатак перадкалядняга посту.

*30* (серада). *Кат. Ун. Дзень Андрэя Першапакліканага, апостала.* Напярэдадні гэтага дня дзяўчаты варажылі: сыпалі пад падушку ячмень і казалі: «Святы Андрэю, я ячмень сею, дай жа ты мне знаць, з кім я буду жаць».

*Крыніцы:* Беларускі народны каляндар. Мн., 1993; А.Надсан. Беларускі царкоўны каляндар (Грэка-каталіцкай, Уніяцкай царквы). Лондан, 1994; Беларускі праваслаўны каляндар. Мн., 1994; складальнікі Л.Качанка і інш.

І. К.

# ПАЧУТАЕ «У ЛЯВОНА»

* * *

Пасля заканчэння школьнага года Ванька бяжыць дадому і крычыць ад парога:

— Татачка, маеш вялікае шчасце!

— Чаму?

— Не будзеш для мяне купляць новых падручнікаў. Я застаўся яшчэ на год у шостым класе!

* * *

— Коля, што ты прынёс у гэтым футарале ад скрыпкі? — здзіўляецца настаўніца музыкі.

— Гэта... аўтамат?.

— Што нарабілася! Бацька пайшоў на справу з маёй скрыпкай!

* * *

У адным купэ едуць маці з малым сынам і два студэнты. Хлопцы расказваюць старыя жарты пра міліцыянтаў.

— А ці ведаеш, чаму міліцыянты не ядуць квашаных гуркоў? Бо іх галовы ў слоік не ўлазяць!

Малы здзіўлена кажа матцы:

— А наш татка есць квашаныя гуркі!

— Так, сыночак, але з бочкі.

* * *

Савецкі хірург праводзіць складаную аперацыю:

— Спірт! — загадвае асістэнтцы.

— Цяпер тампон! — гаворыць праз хвіліну.

— Спірт!

— Тампон!

— Спірт!

— Спірт!

— Агурок!

* * *

— Хто быў першым камуністам у свеце?

— Адам: бегаў з голым азадкам і крычаў, што жыве ў раю.

НАРОДНАЯ ЛЯКАРНЯ

## Д.Джарвіс: ЛЯЧЭННЕ МОЦНАГА НАСМАРКУ

У васьмігадовага хлопчыка быў моцны насмарк. У трохгадовым узросце ў яго выдалілі гланды і адэноіды, і з таго часу ён пакутаваў: з распухлага носа цякло, ён дыхаў ротам. Хлопчыка агледзеў доктар Джарвіс, а затым даў яму пажаваць забрус — мядовыя соты з васковымі вечкамі. Прыкладна праз пяць мінут хлопчык сказаў: «У мяне нос не заложаны, я магу ім дыхаць».

Сапраўды Джарвіс убачыў, што апухласць носа некалькі спала, зменшылася, а слізістая паружавела. Пасля тыдня лячэння хлопчык дыхаў свабодна і ў далейшым рэцыдываў хваробы ў яго не назіралася. Гэты спосаб лячэння доктар Джарвіс праверыў і на іншых пацыентах, у якіх назіраўся неўтаймоўны насмарк, прычым вынікі былі аналагічныя апісаным вышэй.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 43

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7251 паасобнік.
Падпісана ў друк 24.10.1994 г. у 15 гадзін.